Віктар Гардзей

# УЗРУШЭННЕ



ЛІРЫКА

*Мінск*
*«Мастацкая літаратура»*
*1988*

ББК 84 Бел 7
Г 20

В новой книге поэта отражены характерные черты современности: обостренная память, стремление к обновлению всех сторон нашей жизни, тревога за мир, заботы о сохранении окружающей среды, боль Чернобыля. Есть здесь и стихи о любви и дружбе.

Г $\frac{4702120200-170}{М\ 302(03)-88}$ 48—89

ISBN 5-340-00381-7



# БЕЛАРУСІ

Не задымлена даль палявая —
Абеліскі з пагоркаў відаць.
Я матуляй цябе называю
І табе хачу сэрца аддаць.

У бядзе, у цянётах прымусу
Ты забытая ўсімі была.
У баях светлы лёс беларусу
Ты з Расіяй-сястрой здабыла.

Разгараецца зоркай вячыстай
Нараджэння твайго юбілей.
Беларусь, верым сёння ўсе чыста:
Будуць сосны шумець весялей.

Мы жывём па дэкрэту сумлення,
Мы па ленінскай праўдзе жывём.
Пасталела маё пакаленне
Ля станкоў, на палях, за рулём.

Будуць звонка пляскацца крыніцы.
Будзе росна цвісці збажына.
Партызанка, баец, працаўніца,
Ты на свеце такая адна!



* * *

Нашчадак! Свой край зберагалі
І, бачыш, табе збераглі
І светлыя Свіцязі хвалі,
І белыя ў росах палі.

Дык сей жа рупліва зярняты,
Даверся лугам і лясам.
За стол, за свой вугал багаты
Удзячны застанься ты нам.

Вайна апаліла юнацтва:
Хто маці, хто бацькі не меў.
Над светам за мір і за брацтва
Наш голас набатам грымеў.

За праўду стаялі сцяною
І гай зберагалі, і бор.
І тут, за імглой векавою,
Цяпер нас не мучыць дакор.

Купаецца ў Свіцязі лебедзь.
Шумяць збажыною палі.
Нашчадак! Не проста як-небудзь,
А ўсё ж мы шчасліва жылі!

* * *





Сонца на згоду лясную:
Смела ляцець матылю.
Гэта ж цябе я шаную!
Гэта ж цябе я люблю!

Шчэбет разносіцца з гаю —
Лісце дрыжыць на вярбе.
Я не адзін прысвячаю
Працу і песні табе.

Ярам, далінай, па грудзе
Вечнасць плыве сінявой.
Доля якою ні будзе,
Не разлучуся з табой.

Гулам далёкім з-за жыта —
Сполах зарніцаў начных.
Кубак жыцця, ледзь надпіты,
З рук ты не ўпусціш сваіх.

Край мой, сунічны і ройны,
З шумам бяроз і асін,
Жыць не даеш мне спакойна,
Згінуць яшчэ не дасі.





О край за дымкай палявою,
Тваё святло ў душы збярог.
І з горкім шчасцем, і з бядою
Іду сюды — на твой парог.

Перад узлескам чабаровым
Трава да пояса стаіць.
Ракочуць велічныя словы:
Жывому — жыць! Зямлі — радзіць!

Гарыць зара калінай спелай.
Заве грыбная парасля.
Каб толькі ж сэрца не счарсцвела
І ні сягоння, ні пасля.

Ах, колькі іх, людзей нявінных,
Няма, няма сярод жывых.
За іх, за іх любіць павінны
І гэты бор, і паплавы.

Зялёны мёд у звонкіх сотах.
Бусліны клёкат ручая.
О Беларусь, тваёй пяшчотай
Душа не ўсцешыцца мая!

## ЗОРЫЦЬ ДЗЕНЬ





Над сівым Крамлём, над Маўзалеем
Ясныя аблокі паплылі.
Сёння ў кожным сэрцы пасвятлее,
Сёння пацяплее на зямлі.

Зорыць дзень пагодны і святлісты,
Залацяцца промні за смугой.
Шлях крывавы, слёзны і цярністы
Пройдзены Радзімай дарагой.

Маладзей, зялёная планета,
У высокім ззянні кумача.
Нездарма нам свеціць з партбілетаў
Вобраз дарагога Ільіча.

Людзям сеяць жыта і пшаніцу,
Луг касіць і асушаць дрыгву.
Слухайце, сябры, маю сталіцу!
Слухайце, таварышы, Маскву!

Мір — народам, шчасце — нашым
дзецям,
Працы — абнаўленне і прагрэс
Абвяшчае, чутны ўсёй планеце,
XXVII з'езд КПСС.



## НАВАГОДНЯЕ

Блішчалі ў цёмных вокнах свечкі.
Няву захутаў снегапад.
Сустрэў свой першы год савецкі
Сярод разрухі Петраград.

Рэвалюцыйныя матросы
Ішлі, пра шчасце пеючы.
Сам Дзед Мароз белавалосы
Насіў вінтоўку на плячы.

Народу выпалі пакуты —
Нашчадкі ўспомняць праз вякі.
Ашчэрыў зубы вораг люты,
Зляталіся вараньякі.

На Смольны звесіліся з неба
Завеі белыя брыжы,
Ды Новы год са скібкай хлеба
Прыйшоў праз дым і мяцяжы.

Жадаў салдат, жадаў рабочы
Свабоды, працы, дабрыні.
Ярчэй заззялі апаўночы
На ёлках кволыя агні.

У тых кватэрах кожны марыў
Пра лепшы год! За лепшы час
Палкі вадзілі камісары —
Вяршылі справу Ільіча.

Ва ўсе прасочвалася дзверы
Яго ідэй і дум святло.




То — быў пачатак зорнай эры!
То — шчасце да людзей ішло!

Сягоння скрозь над родным краем
Не засмучоны сонца ўсход,
Таму з удзячнасцю згадаем
Савецкі першы Новы год.



## КАСТРЫЧНІЦКІЯ ЗОРЫ

Тады адкрылі цэлы свет нанова,
І зор кастрычніцкіх свяціўся карагод.
З лісцёвай завірухай у дубровах
Ішоў семнаццаты суровы год.

Надвое свет расшчэплены, бы атам,
Ляцеў кудысь, вылузваўся з арбіт.
Зямля навечна — жнеям і аратым!
Дзятве навечна — сонечны блакіт!

Вучыліся любіць і ненавідзець,
Ішлі за праўду з клічам баявым.
Хатыняў нашых і суседніх Лідзіц
У сэрцы попел грукае жывым.

Схіліўшы галаў перад славай мёртвых,
Усё зрабіць тут пакляліся мы,
Каб жах людзей ніколі не агортваў,
Каб далеч не зацягвалі дымы.

І на зямлі народам шчасце дорым,
І ў небе мірны мы нясём дазор.
Гарэць, гарэць кастрычніцкія зоры,
Што ёсць святлей ад гэтых светлых зор!

* * *





Сонца з грэбняў бухматых сумётаў
На нябёсы ўскаціў сакавік.
Грак праталіны ў полі аблётаў,
Верабей да цяпла не прывык.

За сялом белай ватай туману
Сосны чысцяць пажухлую медзь.
Жыць без гора, журбы і падману,
А інакш як вясну зразумець?

Кожны вечар часінаю шарай
Аглядаю з пагорка зямлю:
Перад новай надзеяй і марай
Гэты свет усё болей люблю.

Прыйдзе дзень незвычайна ласкавы,
Дасць у рукі мне зброю, каб я
Бараніў маладыя дзяржавы
І ахоўваў гняздо вераб'я.

Хто зімою аслаб, хто нядуж быў,
Рады сонечным пырскам травы.
Папярэджвае метэаслужба
Пра магчымы цыклон штармавы.





З гурбаў вылазіць праз плот
Зёлак сухое каліўе.
Слухаю дні навылёт
Гукі, якія любіў я.

Звонка звіняць капяжы
І ручаі з лугавіны.
Лес узмакрэлы ажыў
Велічным рыкам ласіным.

Шпак засвістаў, і сярод
Гоману, шуму і граю
Толькі адзін я штогод
Сумную песню спяваю.

Мала надзеі было
Выпрастаць слабыя крылы.
Доўга круціла, мяло,
Доўга збіраліся сілы.

Выйду ў разводдзе знарок
Слухаць жыццё напрадвесні.
Жаўранкам светлы радок
Выпырхне з горычнай песні.





* * *

Знікае снег, лагодны ветрык вее,
Няўжо вясна жаданая прыйшла?
Змяніўся я, пакуль гулі завеі,
І стала болей у вачах святла.

Я па зямлі хадзіў, здаецца, мала,
Ды многа бачу сталасці прыкмет:
Выразней перажытае паўстала,
Другімі гранямі адкрыўся свет.

Прыйшла вясна надзей і спадзяванняў.
Прыйшла вясна няздзейсненых турбот.
Набытак мой, ты варты спачування:
Я жыў не так і быў сляпы, што крот.

Калі, напрыклад, у народа кралі,
Не бачыў я (хоць бачыў!) і, на жаль,
Маўчаў, калі чынушы балявалі
І пелі на паляне пад раяль.

Знікае снег, і я вітаю смела
Вясну з пралескай першай у траве,
Бо ўсё, што сёння болем закіпела,
З бурліваю паводкай не сплыве.





Гэта вецер гудзе ў баравінах.
Гэта сосны шумяць на градзе.
Засталася жыцця палавіна
На дарозе, што ў памяць вядзе.

Засмяюся ці, можа, заплачу,
Ды не зменшыцца болю, відаць.
На любую бяду і няўдачу
Груганы з узбалоткаў ляцяць.

Гэта зоркі раяцца на небе.
Гэта месяца бляск у акне.
Калі гору ці шчасцю патрэбен,
Дык яны адшукаюць мяне.

Палавіны жыцця не хапіла
Адбяліць шэрань зла дабяла.
Ёсць надзея, ёсць вера, ёсць сіла
У свабодным размаху крыла.

Гэта свету часцінка малая.
Гэта ў лозах трывожыцца драч.
І ўжо неба на ўсходзе палае,
І ўцякае цямрэча наўскач.

## УЗРУШЭННЕ

У дні вялікіх узрушэнняў
Чуваць далёка сэрцаў стук.
Патрэбны словы суцяшэння.
Патрэбен цёплы поціск рук.

Як доўга праўды, хоць калючай,
Не разгаралася святло!
І мне пячэ, і мне балюча
За ўсё, што страчана было.

Свяжак вясны неспадзяваны
У хату кожную зайшоў.
Шкада мне рэчак зруйнаваных.
Шкада мне знішчаных лясоў.

Хоць на брады сплываюць хмары,
Сціскае сэрца ўсё часцей
І за Чарнобыля ахвяры,
І за трывожны лёс дзяцей.

Пасля глабальнага крушэння
Жыццё замоўкла б назаўжды.
У дні вялікіх узрушэнняў
Народ згуртоўвае рады.





Усё ж, відаць, адных жаданняў мала,
Каб зразумець вакольны свет спаўна.
Гукні, вясна, як некалі гукала
Мяне ў лясы, дзе скардзіцца жаўна.

Няхай вярэдзяць вечныя пытанні.
Бягу па сцежцы мокрай за сяло.
Мяне збудзілі — першы гром уранні
І першы сум па тым, што адцвіло.

Цяністы бор, ад ветру неспакойны,
Ты не бядуй — няма тваёй віны,
Што ўжо даўно на хвоях сухастойных
Не стала спелых шышак для жаўны.

Схіляе гром бярозку маладую,
Якая сэрцу мілая майму.
Жаўну, што закрычала, пашкадую
І пёрца чорнае ■ дарожкі падыму.

Пасля дажджу зазеляняюць травы.
Бягу я па імхах, па верасах.
А свет незразумелы і ласкавы,
І не гарчыць жывіца на губах.

* * *





Розумам жыццё, як ёсць, прымаю —
Сэрцам, што збалела, не дайшоў.
За акном наперарэз трамваю
Праплываюць айсбергі дамоў.

Хай вясна, хай лотаць зацвітае
Дзесьці там, за вёрстамі тугі.
Страшна мне — душа яшчэ пустая,
Быццам то не я, а хтось другі.

Мне б ісці з мячом на бюракрата,
Мне б узняць пра казнакрадаў крык.
Не, душа зусім не вінавата,
Што язык да пошласці прывык.

Не застацца з памяццю ранімай
Дзесьці там, за гарадской мяжой.
Не праехаць раўнадушна міма
І бяды, і горычы чужой.

Стружа рэйкі з шумам, як тачыла,
Іскрамі абсыпаны трамвай.
Калі меч рука ўжо залучыла,
Дык высока, брат, яго трымай.



* * *

Слабы, няпомслівы, пануры
І ўжо зусім не малады,
Але іду на выклік буры,
Што ў соснах вые да жуды.

Высокі бор, ці не з табою
Я рос, пакутаваў, сталеў —
З тваёю памяццю жывою,
Твой зразумеўшы боль і гнеў?

Напэўна б, сёння болей мелі
Сардэчных песень, добрых спраў.
Хлусы, зладзеі, пустамелі —
Каму ж руку я падаваў!

Халодных слоў туман ружовы
Не даў разгледзець іх мурло.
І толькі бор мой хмурыў бровы,
І сэрцу вусцішна было.

Дык дзякуй богу — вецер вые,
Лясіны выклік прынялі.
Я з вамі, сосны векавыя,
На роднай выстаю зямлі.

* * *





Выбег цецярук на верас —
Самавіты кавалер.
Лес, яшчэ глухі і шэры,
Прачынаецца цяпер.

Ля балотца дрозд засвішча,
У трубу гукне алень.
Над зялёным такавішчам
Зорыць яснавокі дзень.

Маладое, веснавое
Адгукнецца праз вякі.
Бой сапраўдны каля хвоі
Пачалі такавікі.

Маладзейшы і старэйшы
Значаць круг канцамі крыл.
Пераможа — хто дужэйшы,
Хто не траціў марна сіл.

І збягаецца на верас
Плойма цэлая цяпер.
На пяшчоце, на даверы
Свет стаяў, стаіць цяпер.



## ПРАЛЕСКІ

На галы і на ўзлескі
На сонечны прыгрэў
Блакітныя пралескі
Прыбеглі паміж дрэў.

Набраклі сокам клёны.
Пах кружыць галаву.
Спусціўся дождж зялёны
На лес і на траву.

І ранкам урачыстым
Затрубіць лось у рог.
Блакіт у небе чыстым.
Блакіт ля самых ног.

Пралескамі з ахвотай
Любуюцца вясной —
Іх вабнаю пяшчотай,
Іх дзіўнаю красой.

І там, і тут усплёскі
Блакітнага святла,
І ўжо на ўзлесак і вёскі
Кіруецца пчала.

## ЖУРАЎЛІНЫ «БУДЗІЛЬНІК»

*Легенда*





Лес прасвятлеў пасля бур і мяцеліц,
З выраю птушкі ўгары праплылі.
Цяжка ляцелі да родных аселіц —
Хочуць крыху адпачыць жураўлі.

Селі за рэчкай у сонным здранцвенні,
Сам жа важак сцеражэ чараду.
Чуйна ён слухае пошум вясенні,
Птушак разбудзіць, пачуўшы бяду.

Стораж не дасць жураўлёў на загубу,
Спаць яму нельга — такі ўжо закон.
Жораў стары бярэ камень у дзюбу:
Як ні мацуйся, адольвае сон.

Доўга ж ляцеў праз далёкія землі,
Помніць заўжды, перад кім у даўгу.
Дзюба панікне, ледзь жораў задрэмле,
Камень балюча ўпадзе на нагу.

Стораж прахопіцца, камень падыме,
Будзе зноў пільна стаяць на пасту.
Даль у зялёным хаваецца дыме,
Ціша навокал — чуваць за вярсту.

Ёсць у прыроды адвечныя тайны.
Клін журавліны прапаў за смугой.
Кажуць, «будзільнік», такі незвычайны,
Жораў і ў выраі носіць з сабой.



* * *

Відаць, я стаміўся ад гулу і грому,
Ад вечнай трывогі за родных дзяцей.
І раіў мне доктар, як гарадскому:
— Вам трэба бываць на прыродзе часцей.

Ці доктар не ведаў? Адтуль я, адтуль я —
З дубровы і бору, з балотаў і ніў.
Мяне дуб за вёскай ад ліўня затульваў,
Мне птушкі спявалі, мне месяц свяціў.

Адтуль, дзе вясёлых заранак узбліскі
Падобныя ўсмешкам дзяўчат уначы.
Адтуль, дзе ў сялібах стаяць абеліскі:
Спыніся — успомні, пастой — памаўчы.

Заплача дзесь каня — і мне не ўсё роўна.
Хай добрае, яснае сонца ўстае.
Шчымлівая песня над смерцю гвалтоўнай
Высока разгортвае крылы свае.

І кружаць пялёсткі над самай дарогай,
І сэрца, вядома, шчыміць нездарма:
Хадзіў я па свеце і ездзіў я многа,
Ды большага шчасця, чым дома, няма.

* * *





Зялёныя шаблі аеру
На сажалках вецер згінае.
Бядую, чакаю і веру:
Загоіцца рана скразная.

Пад вечар птушынага рэю
Слабее напал неўзаметку.
За ўсё, чым жыву, адхварэю —
За кожную пчолку і кветку.

На сажалках з бурбалак сіта:
То дождждык сыпнуў нечакана.
Смугою ўжо далеч спавіта
І зноўку смыліць тая рана.

Журба на зялёных улоннях,
І мне не развеяць патолю.
Я знаю: Чарнобыль сягоння —
Везувій сусветнага болю.

Мне страшна, мне крыўдна, мне горка,
І, пэўна ж, на свежую рану
Ля сажалак драч надвячоркам
Дзярэ золкі кужаль туману.





Родная зямелька
Журыцца ў бядзе.
Ястраб глянуў мелькам:
Хто такі ідзе?

Мерзне ранкам золкім
Сіні васілёк.
Плач у перапёлкі
Жаласны здалёк.

З жыта і люцэрны
Сцежак не відаць.
Ястраб ненажэрны
Будзе баляваць.

Чырвань б'е з дубровы —
Край гарыць нябёс.
Вецярок паўднёвы,
Ты бяду прынёс.

Надпіс на фанеры:
«Васількоў не рві!»
Ястраб кружыць шэры
З дзюбай у крыві.

* * *





Яшчэ з начы туман бялёсы
Стаіць над рэчкаю жывой,
Пчала ляціць на меданосы —
На гарыцвет, на зверабой.

Пчалу не руш у лугавіне,
Пчалы заўжды было шкада,—
Яна ж уджаліць і загіне,
Не даляцеўшы да гнязда.

Людзей стае з ухмылкай злою,
І я, абураны, прашу:
Не стойце кучна нада мною,
Не наступайце на душу!

Цаной любою, нібы пчолка,
Абараніць сябе змагу.
На лузе раніцаю золкай
Жыццё чужое сцерагу.

Не будзе горкі мёд у сотах:
Пчалу, што вылецела ў свет,
Частуюць роснаю пяшчотай
І зверабой, і гарыцвет.



* * *

Трэба помніць, што прыйдуць нашчадкі,
Пакуль целам і духам не слаб,
Бо ўцякае жыццё без аглядкі,
У якога і бог я, і раб.

Неба ёсць і на небе — аблокі.
У лясах ёсць зубры і зайцы.
Чую продкаў я голас далёкі:
— Малайцы вы, аднак, малайцы!

Прастаялі жыцця палавіну
Па любоў і па хлеб у чарзе.
Нешта людзям усё ж я пакіну —
Хай сумленне дакор не грызе.

Хоць і крылы вайна апаліла,
Наракаць не магу на свой лёс.
Бэз журботна, пяшчотна і міла
На магіле салдацкай парос.

Сей жа зерне паўнюткаю жменяй,
Моцны духам, шырокі ў касці!
Аддасі паўжыцця, і не меней,
Каб да праведных ісцін дайсці.

* * *



Сёння мне і добра, і сугрэўна:
Тчэ прырода велічны кілім.
Адзавецца праз гады, напэўна,
Голас мой у громе маладым.

Навальніца гаем прашумела.
Жыць хачу — прашу пагодных дзён.
За бярозай, што ў сукенцы белай,
Далягляд расквечаны відзён.

Будуць пчолы піць нектар салодкі.
Пакрысе асядзе каламуць.
На дарогах, дзе хадзілі продкі,
Шчасця і бяды не абмінуць.

Азірнуся з цішыні трывожнай —
Выбухі далёкія чутны.
Птушанятка, лётай асцярожна:
Задзяруць ліхія груганы.

Сочыцца з бярозы сок на зломе,
Нібы кроў з балючага радка.
Адзавецца голас мой у громе,
У вясёлай песні жаўрука.





Вецярок павее душны —
Май зялёны на дварэ.
Маладушных, крывадушных
На парукі час бярэ.

Розум ясны і цвярозы,
Можа, першы раз такі?
Ля распушанай бярозы
Мяч ганяюць хлапчукі.

Ім — палацы і музеі.
Ім — заводы і палі.
Маладзее, цверазее
Воблік роднае зямлі.

Болей кветак будзе ўлетку,
Болей стане дабраты.
На дагледжаным палетку
Будзе колас не пусты.

Хай і хлопцы, і дзяўчаты
Весяляцца давідна.
На парозе кожнай хаты
Светлая стаіць вясна.

* * *




Не вернецца гора і ліха,
Трывога ж, аднак, не прайшла.
Бярозкі самотна і ціха
Удалеч бягуць скрай сяла.

Якія пяшчотныя ночы!
Якія святлістыя дні!
Таго, хто да войнаў ахвочы,
Навекі, жыццё, пракляні.

Над полем, над лугам, над борам
Хмурынкі журбы не сплылі.
Не скора, напэўна ж, не скора
Загояцца раны зямлі.

Адтуль — з папялішчаў і грому —
Свой смутак і крыўду я нёс
І смела братэрству людскому
Цяпер давяраю свой лёс.

Бярозак шумлівых чароды.
Лясное — у сонцы! — сяло.
Учора, сягоння, заўсёды
Мне помніць аб тым, што было.



* * *

Марса крывавае вока
Ноччу свідруе зямлю.
Зорам, што ззяюць высока,
Бедства сігналы я шлю.

Колькі б вайна зноў забрала!
Зніклі б лугі і бары.
Першым шалом і забрала,
Грозны мой Марс, не бяры!

Мы ад маны ўжо адвыклі:
Богу, маўляў, не пярэч.
Гэта жыццю ўсяму выклік —
Супраць мяча такі ж меч.

Пашчы вайны крыважэрнай
Край не паганіць лясны.
Жытам, ячменем, люцэрнай
Поле засеем з вясны.

Меч я выхватваць не стану
На вышыні, дзе стаю:
Сіле з варожага стану
Сілу засведчу сваю.

* * *





Зямля яшчэ не ўся згалела,
Не аблысела, як валун.
На баравіне парадзелай
Дурманяць верас і баркун.

З маркотай сосны, прыкмячаю,
Бягуць па сонечнай градзе,
Ды не паддаўшыся адчаю,
Бор нешта майскае гудзе.

Яму, нязломнаму, я часам
Зайздрошчу, зведаўшы ўсяго,—
І жыццяздольнасці запасам,
І простай мужнасці яго.

На грудзе, бомбамі ўзараным,
Дзе свет і птушкам быў няміл,
Узняўся бор мой веліканам
І засланяе небасхіл.

Каля дарог жывой надзеяй
Цвіце чабор, цвіце баркун:
Зямля мая памаладзее,
Не стане голай, як валун.



* * *

Ля бяроз і ля старых акацый —
Сэрца сумавала па вясне.
Хопіць людзям шчасця, хопіць працы,
Толькі хай бяда іх абміне.

Чую блізка радасныя бомы —
Ручаі звіняць з усіх бакоў.
Прынялі пад шоргат крыг знаёмы
Першыя праталіны гракоў.

Свішча і пяе да самай ночы
Дзіўны свет, дзе ў клопатах жыву.
Пад вярбой крынічка забулькоча,
Пах раллі закружыць галаву.

На бярозах шум стаіць шпачыны,
Ля акацый чуцен гул чмяля.
Вецер, што снягі сагнаў з лагчыны,
Водгук грому прынясе здаля.

Пройдуць хмары, затравее поплаў,
Хоць не цешыць заўтрашні прагноз.
Мне трывожна, хораша і цёпла
Ля старых акацый і бяроз.

* * *





Над засеўкам і над лугам
Дожджык сыпле наўскасы.
Па жыцці іду ад плуга,
Ад сярпа і ад касы.

Не журыцца днём вясеннім,
Жыць вясёлай талакой
Перад светам і сумленнем,
Перад памяццю людской.

Плач бярозы белакорай,
Шум асінак маладых.
Па жыцці іду ад гора,
Ад слязы і ад нуды.

Там, у часе незнаёмым,
Дружна жыць сям'ёй адной.
Не журыцца перад громам,
Перад сонцам і сяўбой.

Праясніцца прысмерк шэры
І развеецца слата.
Па жыцці іду ад веры,
Ад мяча і ад шчыта.

2 Зак. 1411



* * *

З туману і далечы, з бору і гаю
Вяснянку лясную — сваю маладосць,
Ці горка, ці крыўдна, гукаю, гукаю,
І неба святлее, і крылы ўжо ёсць.

Падняцца б над полем, над раніцай золкай
І хоць на хвіліну вярнуцца б туды,
Дзе ў жыце, на лузе, пад яркай вясёлкай,
У садзе мае засталіся сляды.

Там яблыкі рваў я на голлейках ніжніх,
Там хлеба нястача, там хворы я злёг,
Ды там між людзей нарадзіўся падзвіжнік
Народных памкненняў, турбот і трывог.

Ці горка, ці крыўдна — чужога не выкраў,
Не стаў на нейтральную я паласу.
Праз леты і зімы не будзе мне прыкра
За шчырае слова, што людзям нясу.

Шукаю вяснянку — яе не спужніце:
Сляды на траве, на сыпучым пяску.
Гукаю і бору, і сонцу ў зеніце,
Ды толькі журлівае чую: «Ку-ку!»

* * *





Я ўслед за другімі пайшоў
У свет міражоў і туманаў.
І хаты сівенькіх удоў
Журботна глядзелі з бур'янаў.

І крылы груган распасцёр
Па-над інвалідскай каляскай,
І светлыя вочы азёр
Зацягвала цінай і раскай.

Міраж узнікаў сярод ніў,
І засціў туман далягляды,
І хама, што грошы любіў,
Пад рукі вялі да пасады.

Фальшывую ноту ў прыпеў
Заплёў я і — быў вінаваты,
Што род чалавечы драбнеў,
Што стылі забітыя хаты.

Сумленне маё, памажы
Засеяць аблог узараны,
Дзе гінуць ужо міражы
І бачыцца шлях праз туманы.





І налева, і направа
Мітусня, уздым і шум.
Далучыцца маю права
Да жывых дзяржаўных дум.

Адусюль прыходзяць весці,
Што святлее небасхіл.
Трэба жулікаў патрэсці,
Каб курэў над імі пыл.

Працавалі, будавалі,
Ды ў хлусні імпэт загруз.
Ачышчальнай буры хвалі
Змыюць смецце, змыюць друз.

Па былым у коле вузкім
Уздыхаюць паначы
Бруханогія малюскі
І бяздарныя сычы.

Ачышчэнне, абнаўленне
Недарэмна пачалі —
Для наступных пакаленняў
Будзе светла на зямлі.



* * *

Вачмі азёр, пазначаных журбою,
Ты на мяне, зямля мая, глядзіш.
Плывуць вякі і хмары над табою,
Ляцяць буслы, разгойдваючы ціш.

І мне стаяць балюча тут і горка —
Ля абеліскаў памяці тваёй,
Якія з выспаў, кручаў і пагоркаў
Відаць народам на планеце ўсёй.

Дзялілі хлеб — мяне не абдзялілі.
Вось так і ты, нашчадак мой, жыві.
Вякам складаць легенды, песні, былі
Аб доблесці, аб славе, аб любві.

Чуваць у небе рэактыўны выхлап,
І ручаі звіняць з усіх бакоў,
І вырываюць галубы з крывых лап
Ахвяры ў ястрабаў і груганоў.

Тут жыць і жыць — араць аблог вясновы,
Любіць свой бор, што ў золата адзет,
І верыць: я зусім невыпадкова
Прыйшоў у неспакойны гэты свет.



* * *

Вясеннія воды збудзілі прыроду
І гулам грымотным, і шоргатам крыг.
Плугі на палетку заглыбяцца з ходу,
І ворыва пах растрывожыць уміг.

Аглушаны болем, не думаў учора,
Што буду здаровы зноў крочыць удаль.
Есць нешта, вядома, ад бурнага мора
У гэтым раскацістым рокаце хваль.

Заўжды перад тым, хто і праўда вялікі,
Мне дзён, што ў пакутах прайшлі, не
шкада.
Далёка, шырока, рассыпаўшы блікі,
Сваволіць, бурліць ледзяная вада.

Гракамі агучана даль палявая,
І дзіўна, што можна тут жыць у жальбе.
Лагодай і згодай зямля ажывае,
І верыш прыродзе ўжо больш, чым сабе.

Дарога жыцця, не мінаючы кручы,
На поле бяжыць паўз блакітны разліў.
Я цешу надзею сабраць немінуча
Усё, што пасеяў і ў поце расціў.

* * *



Вятры купаюць сонца
У чорнай баразне.
Ні радасць не да донца —
Пакінь хоць кроплю мне.

Адно ўсяго імгненне
У вечнасці нямой,
Жыву я ў дзень вясенні
І працай, і сяўбой.

Пад небам васільковым
Ні мітусні, ні звад.
Шумяць, шумяць дубровы,
Як сотні год назад.

Цяплом перадвячэрнім
Журбы — як не было.
Прапахла поле зернем,
Што ў чорны пух лягло.

З душэўнаю трывогаі
Ускрай раллі сяджу,
І побач анікога,
Хто б так жадаў дажджу.

Пайшлі сяўцы дадому,
І ты, зямля, спачынь.
Усплёск вясёлы грому
Прынесла далячынь.





Раса лягла на дол —
Удалечы світае.
Нязменная вакол
Зямля мая святая.

Ганю каня наўскач
Дарожкай баравою,
А ліхадзей-крумкач
Вісіць над галавою.

Вунь сонейка ўстае,
Бліпічыць трава на галах.
Няма душы тае,
Якая б не спявала.

Зялёнага дажджу
Хапіла ўдосталь маю.
На крумкача гляджу —
Ружжо з пляча здымаю.

Цяпер ніводны птах
Не абміне давер'ем,
І не бяда, што шлях
Усланы чорным пер'ем.

* * *





У свежасці зямлі вясенняй,
У чысціні сяліб наўкруг
Адчайна прагнуць абнаўлення
І голы лес, і шэры луг.

То свішча дрозд на мокрым дрэве,
То шпак вясёлы гімн пяе.
Цвіце пралеска на прыгрэве,
І я не буду рваць яе.

Пярун, што пракаціўся з гулам,
Мой дом таксама абміне.
Хай застанецца ў дні мінулым
Усё, што мучыла мяне.

Старую гліцу нават сосны
Вясной асыплюць на траву.
У адмаўленні рэчаў косных
Працую сёння і жыву.

Сярод асвежанай дубровы
Былыя раны варушу
І чую: дух зямлі здаровы
Пераліваецца ў душу.



* * *

І звіняць, і гамоняць наўкола
Белы свет, белы май, белы сад.
Прывітанне і птушкам, і пчолам,
І ўсяму, каго бачыць я рад!

Многа дум перадумана горкіх.
Многа слёз пралілося ўначы.
Прывітанне, зайцы і ваверкі!
Вам хачу я ў бядзе памагчы.

З-за ялін і з-за хвояў кашлатых
Над разлогамі сонца ўстае.
Прывітанне, сявец і араты!
Хай не стомяцца рукі твае.

Будзе скрухі і радасці будзе.
Ніву дождж напаіў не скупы.
Прывітанне вам, добрыя людзі!
Хай не ступяцца вашы сярпы.

Навакол засвятлелася ўранні:
Вішні ўсыпаў, як снег, мокры цвет.
Прывітанне, кажу, прывітанне,
Белы сад, белы май, белы свет!

# ПОЎДЗЕНЬ ГОДА





Світальны час малінавага лета
Чаруе прыгажосцю маладой:
Яшчэ і песня лепшая не спета,
Яшчэ і гай не дыхае слатой.

На ўзлеску, белай дымкаю спавітым,
Чаромхавы разліўся халадок.
І ўжо да дна напоўнены блакітам
Рачулкі ціхаплыннай паясок.

Адтуль, з кустоў, на травяністы поплаў
Праз міг, здаецца, выскачыць алень.
Прасторна, светла і надзвычай цёпла —
Хай будзе блаславёны гэты дзень.

Відаць, і лось бяжыць на абалону
Па верасах, праз мокрыя імхі.
На полі рунь схавае ўжо варону,
І распусціўся ў грэчцы дуб глухі.

Патрэбна цішыня птушыным гнёздам —
Грымот не прагне чэрвень-дабрадзей.
Пасля вясенніх дзён прыходзіць роздум
З трывогамі і праблескам надзей.

І ўжо душа, з'яднаўшыся з прыродай,
У прадчуванні перамен жыве,
І чырванню світальнай поўдзень года
Сцякае па бярозах, па траве.





* * *

Там, у лесе, ля чаромхі белай,
Жыць, напэўна, мне лягчэй было б.
Часам трошкі б сэрца пашчымела,
І другіх не ведаў бы хвароб.

Пра зямлю, што стала месцам лобным,
Пра таго, хто пад мячом жыве,
Між грымот, на роў гармат падобным,
Думаць вельмі скрушна галаве.

У слату не варта падаць духам
Бітаму, старому вераб'ю.
Хай жывуць бабёр і палятуха,
Пэўна, і гадзюку не заб'ю.

Пра зямлю ў нястачах і згрызотах
Думаю я сёння не адзін.
У лясах палескіх, на балотах
Не знайсці брусніц і журавін.

Сэрца, што па ўсім жывым збалела,
Кліча да пачатку, да высноў,
Ды і там, каля чаромхі белай,
Зойдзецца ад клёкату буслоў.

## СТРЫЖЫ





Слухай, сонца, шчымлівыя словы:
Ты зямлі маёй верна служы.
Хай ляцяць у світанак барвовы
З неастылых гняздоўяў стрыжы.

Гэты край дарагі мне і мілы,
Рады я хараству і красе.
Ды не свішчуць птушыныя крылы
І ля хмар іх крумкач не пасе.

Сумна лесу без песень і граю:
Зацяжны дождж учора пайшоў.
Я дарэмна вачамі шукаю
У нябёсах імклівых стрыжоў.

Нечаканая слабасць у целе —
Працінаюць вятры і мяне.
Ад нягоды стрыжы падранцвелі,
Спяць на гнёздах у змушаным сне.

Сонца, знай, што віна за табою:
Пасвяці, птушанят зберажы.
Недзе ж там, за халоднай імжою,
Спяць, не чуючы піску, стрыжы.





На полі, дзе пшаніца залатая,
Я не пытаю: быць альбо не быць?
Ах, дзіўны свет! Крылаты — не лятае,
А безгалосы — больш за ўсіх крычыць.

Пад ліўнямі грымотнымі калісьці
Тут нехта жыў, падобны на мяне.
І зжаты колас, і апалы лісцік
У новай паўтараюцца вясне.

Майго жыцця не высахлі вытокі.
Маёй любві не счахлі карані.
Ён усміхнецца, продак наш далёкі,
Ледзь толькі полаг часу адхіні.

Тут хтось ішоў — слядоў стае пад глеем,
Тут нехта спаў — гарэў агонь, відаць.
Ах, дзіўны свет! Усё рабіць умеем —
І сеяць, і касіць, і забіваць.

Хто мае крылы — той няхай лятае,
Хто мае голас — той няхай крычыць.
На полі, дзе пшаніца залатая,
Пытацца лішне: быць альбо не быць?



* * *

Вунь у жыце плача перапёлка
Над бядой — сваёю ці чужой,
І жаўрук над палявым прасёлкам
Зазвінеў з трывогай і жальбой.

Чайка разгалосіцца заўсёды,
Ледзь зашэрхне, зжоўкне сенажаць.
Вось яна, спагадлівасць прыроды,
Брацтва і садружнасць, так сказаць.

Я іду расчулена ў нізіне.
Ласку знаў, а хочацца яшчэ.
Без людзей мяне, відаць, пакіне
Тое, што і мучыць, і пячэ.

І тады б счарнеў туман бялёсы,
І не стала б еднасці з зямлёй.
І звяроў і нашы з вамі лёсы
Повяззю павязаны адной.

Будзе дождж — прыпарвае ад ночы,
Рве пялёсткі ветрык у ільне.
Хай жа гром, што за ляском грукоча,
Хаты і гняздоўі абміне.

Неспакой і боль у нас адзіны:
Не заслаўся б дымам краявід.
І таму, калі плывуць хмурыны,
Перапёлцы плачацца наўзрыд.




# ПАЖАР

Ноччу гарэла
Будова суседава.
— Людцы, ратуйце! —
Пастукалі ў шкло.
Куры і пеўні
Кудахчуць на седалах.
Лямант і гоман —
Віруе сяло.

Людзі забеглі к нам,
Клункі пазвязвалі.
Нема над студняй
Вішчаў журавель.
Светла было
Пад барвовымі вязамі,
Голкі збіраць
Было можна ў траве.

Неба абсыпалі
Чорныя вораны.
Курчацца вішні,
І сохне галлё.
Людзі на стрэхах,
Бляскам азораны,
Мочаць дзяружкі —
Ратуюць жыллё.

Бабы хрысціліся:
«Дзіва, так парыла!
Звечара дожджык
Зямлю прамачыў.



Можа, во гэта
Барвовае зарыва
З грому ўзялося
У цёмнай начы?»

Юля, суседка,
Зусім асірочана:
— Людцы,—
Прасіла,—
Адстойце хоць хлеў!..
Я ж пасля ночы
Перакалочанай
Трызніў у сне,
І не піў, і не еў...

Мучыць пажар той,
Значэння мясцовага...
Ведаю Лідзіцэ...
Помню Хатынь...
Ворана прывід
З неба барвовага,
Памяць маю
Назаўсёды пакінь!



## РЭПІХАВА

У траве натапырыўся злётак сарокі,
І жывы камячок хоць у кепі хавай.
Дождж абмыў, захлынуўшыся ў громе далёкім,
Старажытнае ўрочышча Рэпіхава.
Паміж сёлаў Крывошын і Нетчын за Шчарай
Астраўком сярод ніў зелянее яно.
Грай птушыны вісіць тут часінаю шарай
І падзеі былыя забыты даўно.

Ды чаго праз лясы, праз лугі і балота
Прывяла мяне зноўку дарога сюды?
Мне б знайсці, мне б убачыць пра Яна Чачота
Хоць які напамін, хоць якія сляды.
Тут ён рос, тут ён сэрца любоўю напоўніў
Да людзей, што жылі многа часу назад.
Чую шум пасівелых дубоў і лістоўніц
У мелодыях вершаў яго і балад.

Праз імглу кніг данеслі жывыя старонкі
Боль да тых, хто гібеў у нястачы і слеп.
Вунь масток праз ручай, калісь журкі і звонкі,
Вунь цагляны, зарослы ажынамі, склеп.

Мільганецца вавёрка на явары стромкім,
І апалыя дзічкі блішчаць у траве.
Веру я: прынясуць сюды кветкі патомкі,
Галасамі людзей гэты кут ажыве.
Цішыня на пустой старасвецкай алеі.
Адгукаецца гром дзесь у прыпары дня.
У лясах і на небе прыкметна святлее
І, сагрэўшыся, спіць у руцэ птушаня.

* * *





Лясоў разліў не ўступіць нават мору,
Дзе ціха дзьме начны ці дзённы брыз.
Блакітны вір — калі зірнеш угору,
Зялёны вір — калі зірнеш уніз.

Чаўны гадоў праз белыя туманы
Плывуць, і ўсё мацней вятроў парыў,
Хоць бераг, дзе звалюся змардаваны,
Яшчэ такі ж далёкі, як і быў.

Плывуць чаўны пад ліўнямі і громам.
Ляцяць ракеты да другіх планет.
Сваім жыццём — чужым і невядомым —
Здаўна хвалюе навакольны свет.

Блакітны вір — для смелых і адчайных.
Зялёны вір — ён для мяне, відаць.
І мураша і чалавека тайны
Хачу, пакуль плывецца, разгадаць.

Хачу я зразумець буслiны клёкат
І, човен свой даверыўшы вяслу,
Пяю жыццё...
І бераг той далёка,
Дзе разаб'ецца песня аб скалу.



* * *

Да рачулак едуць на вазах рыпучых,
Грукаючы бочкамі, хмары па ваду.
Коней цёмнагрывых, што панеслі з кручы,
Я лаўлю адважна у вёскі на віду.

На дарогу з хаты выбягае хлопча:
Перад громам хоча жудасць пабароць.
Сцеражыся, хлопча, бо кабылка стопча —
Вогненныя лейцы, срэбная аброць!

Над азерцам хмары пастаяць паўхвілі
І зноў коней пусцяць з горачкі ўразнос.
Вазакі ад бочак затычкі згубілі —
Дождж напоіць жыта, бульбу і авёс.

Як жа тут, за вёскай, весела і добра!
Немачы забыты і журба — далоў!
За зялёным лесам Лань, і Цна, і Бобрык
Слухаюць прыбліжаны рып старых вазоў.

Цокаюць падковы ў паднябессі золкім,
Выбягаюць коні на блакітны брук.
І над лугам росным, пад дугой вясёлкі,
Зазвінеў шамкамі радасны жаўрук.

* * *





Гром над лясамі прыціх.
Дуб уздыхнуў круталобы.
Бусел на крылах сваіх
Носіць павязку жалобы.

Мусіць, ён доўга лятаў,
Страціў сястрыцу ці брата
І сярод скошаных траў
Сёння стаіць вінавата.

Злую адвесці бяду
Бусел не меў, пэўна, сілы.
Луг, дзе стаіш, абыду,
Не патрывожу, мой мілы.

Сам жа я ў сэрцы нашу
Жаль, не забыты па часе,
І разумею душу,
Што на агні апяклася.

Бусел, у цёплых краях
Помні пра неба ў маланках.
Хай жа, як хата мая,
Не апусцее буслянка.

Кінем свой жаль у касцёр,
Глянем на свет па-другому.
Рукі вунь дуб распасцёр,
Каб засланіць нас ад грому.





Я ўвесь даверыўся зямлі,
Нібы лісток сваёй галінцы.
Мне сіл палеткі прыдалі,
Калі быў рад сухой скарынцы.

Што ён суровы — чэсны хлеб,
Даводзіць кожная эпоха:
У згодзе б жыць — і на стале б
Ляжаў ва ўсіх пахучы бохан.

Я помню: сонейкам дзятве
Здаваўся хлеб на падаконні.
Бывае, з даляў прыплыве
Той дзіўны водар і сягоння.

Спрадвек шануе мой народ
Сумленнай працай хлеб здабыты.
І я трывожуся штогод:
У буру не палегла б жыта!

Тут, дзе пачатак, дзе выток,
Я чую кожнаю крывінкай,
Як у пакутах звяў лісток,
З жывой расстаўшыся галінкай.

* * *

Адгукнецца з гаю векавога
Дзікі голуб і касматы сыч.
Ты мяне, зялёная трывога,
За смугой бярозавай пакліч.

Я прыйду. О, я прыйсці гатовы
Праз імжу, праз ліўні і вятры.
Не ў цане цяпер пустыя словы:
Хочаш праўды — праўду гавары.

Не хачу быць добранькім і скрытным,
Пераменам я таксама рад.
Хай трасуцца чэравам рахітным
Бюракрат, аблуда, казнакрад.

Чарнату за знешняй пазалотай
Бляск ненатуральны выдае.
Ёсць, аднак, і радасць, і пяшчота,
І пакуль што горычы стае.

Там, у лесе, сыч і голуб дзікі
Не ўжываюцца паміж сабой.
Марныя ж у нечысці разлікі:
Гэта люты і апошні бой!



* * *

За павалокай дыму белай
Пражытых дзён гарачь лаўжы.
Па тым, што ў бурах адшумела,
Ля хвояў, памяць, не тужы.

Яшчэ не высушаны вёслы
І будзе радасці, хаця
Не засмяюся я — дарослы —
Так бесклапотна, як дзіця.

Здаецца, ўжо нічога болей
Мяне не ўзрушыць, акрамя
Слёз перапёлчыных у полі
І маці светлага імя.

Ці быў ён смачны, хлеб сірочы,
Ці шлях быў роўны, ці кружны,
Раскажуць стомленыя вочы
І срэбны пробліск сівізны.

Ля хвояў гэтых не панурых
Пайду, як кажуць, я з гасцей.
Гарачь лаўжы, сціхаюць буры,
А дым усё гусцей, гусцей...

* * *





Выйду з ценю, што кінулі сосны,
У знямозе ўпаду на траву.
Як жа так, што бясконцыя вёсны
Без цябе я ў гаркоце жыву?

І спякоты прыпала замнога,
І палёгкі свяжак не прынёс.
Не стае мне чагосьці зямнога
Без тваіх ясназорных нябёс.

І якія ж то змрочныя хвалі
Гоняць шэрань над цёмнай зямлёй?
Нешта хутка і кветкі завялі
На самотнай магілцы тваёй.

Галасок блізка ўстрэміцца звонкі,
І трывожна ў грудзях зашчыміць:
Ад цябе ж да унучкі Алёнкі
Радаводная цягнецца ніць.

Толькі вочы зажмуру і — бачу:
Ты стаіш пры зялёнай вярбе...
Хай жа сосны, знямогшыся з плачу,
Засланяюць у слоту цябе.



* * *

За далячыню прамаўчала,
На сынаў голас не прыйшла.
Мне без цябе было замала
Пяшчоты, ласкі і цяпла.

Шуміць лістотаю бярэзнік
Пад ціхі плёскат ручая,
І не забудзецца, не счэзне
Усмешка горкая твая.

Асвецяць раніцаю промні
Партрэт у рамцы на сцяне.
Прабач, тваіх вачэй не помню,
Таму і вельмі прыкра мне.

Давеку лёсам апшуканы,
З маленнем на цябе гляджу —
Прыйдзі праз белыя туманы,
Прыйдзі з імклівага дажджу.

Няма ў бядзе, што пражыта,
Няма ні летам, ні вясной.
За далячыню толькі жыта
Стаіць, не зжатае табой.

* * *

Лёсу дарога крутая
Зноўку ырне пад абрыў.
Сцюжа сляды замятае
Там, дзе хадзіў я і жыў.

Помняцца добрыя справы,
Як і былыя грахі.
Яблынька ў пальцах каравых
Яблык трымае сухі.

Даўняя стома і верад,
Сэрца штось б'ецца не ў лад.
Скрушна — як гляну наперад.
Горка — як гляну назад.

Песню ні сёння, ні потым
Мама ў акне не спяе.
Стыне пад чорным сумётам
Голас пяшчотны яе.

Яблык ад самага мая
Яблынька мне берагла.
Сцежка жыцця не прамая:
Буры, абрывы, імгла.





Як светла было і прасторна
У вокнах — на захад, на ўсход.
Мой дом у старонцы азёрнай
Стаіць на вятрах, між нягод.

Бяроза ля плота старая
Не верыць ні слову майму.
Бяроза мяне дакарае,
І я разумею — чаму?

Як доўга гулялі мы ў жмуркі,
Дзялілі не свой каравай,
Абрыўкі газет, недакуркі
Кідалі ў празрысты ручай.

Насіць і не вынасіць смецце —
Збіралася столькі гадоў.
Бяроза, паніклая веццем,
Ківае ад свежых вятроў.

І дзверы, і вокны ўсе — насцеж,
Хай выйдзе смуродлівы дым.
Мой дом збудаваны для шчасця,
І будзе зноў чысценька ў ім.




# ФІРМА

Фірма венікі вязала,
Фірма ў поце гнула дугі,
І рабочых рук не стала
На палях усёй акругі.

Гоніць быльнік і свірэпку.
Зарастае хутка паша.
Самі рвуць увосень рэпку
Дзед Яўхім і баба Глаша.

Фірма ўнучку іх забрала —
Засталіся кот і Жучка.
Нос капылячы, па сала
Едзе чысценькая ўнучка.

Вёска ціхая, пустая,
Сіратліва стынуць хаты.
Тая ж фірма працвітае,
Раздувае фірма штаты.

Ацаніць бы сёння строга
Фірмы марныя заслугі:
— Вашых венікаў замнога,
Не патрэбны вашы дугі!



## ПРЭС-ПАДБОРШЧЫК

*Замалёўка з натуры*

Помніцца, аднойчы сярод лета
З пыхаю, дастойнаю мундзіра,
У цішы мадэрна-кабінета
Бічаваў начальнік брыгадзіра:

— А чаму, скажы мне, з той лашчыны
Сена не сабралі твае парні?
— Дык была на тое ў іх прычына —
Зранку паламалася цюкарня.

— Гаварыў бы ты, Васілій, ўнятна,—
Тут пачаў начальнік усміхацца.—
Гэта слова неяк не панятна,
Прэс-падборшчык — нада выражацца.

Брыгадзір апраўдваецца ціха,
Верны роднай мове да магілы:
— Ляснула цюкарня, як наліха...
— Прэс-падборшчык, прэс-падборшчык, мілы...

Брыгадзір Васілій раззлаваны,
Загарэлы твар у сетцы зморшчак:
— Я ж кажу: цюкарня паламана,
Сам ты, даражэнькі,— прэс-падборшчык!

Неўтаймоўны духам, нескароны,
Брыгадзір стаяў і хмурыў бровы.
І знямеў, як быццам рак, чырвоны
«Прэс-падборшчык» Васілёвай мовы.

* * *





І даўно ўсе горычы забыты.
І даўно я не хадзіў сюды.
У дарозе стомлены, знябыты,
Пасяджу ля стылае вады.

Жорсткі час, аднак, не здолеў плесняй
Зацягнуць крыніцу з чыстым дном,
І яна звініць, як быццам песня
Пра зямлю і пра бацькоўскі дом.

У вадзе адсвечваюцца далі
І маё зялёнае сяло,
Дзе падчас і крылы ападалі,
Дзе падчас і моташна было.

І сюды праз ліўні і туманы
Стомлены, падбіты я прыйшоў —
Мучаць незагоеныя раны,
Кліча тая, даўняя, любоў.

Ці крыніца сапраўды булькоча,
Ці я штосьці трызню ў цішыні,
Толькі бачу: ззяюць да паўночы
Роднай вёскі ясныя агні.



* * *

Слязінка з-пад вейкі зляцела
На ўзмежак, у быльнік густы.
Парывамі вецер злюцела
Камечыць, згінае жыты.

Ад грознай стыхіі шукаю
Ратунку зямлі і сабе,
Бо ведаю пэўна, якая
Бяда ў аканіцы дзяўбе.

Стыхіі, аднак, невядома,
Чаго плача каня ў трысці.
Дахаты сцяжынкай знаёмай
Хачу пераможцам ісці.

Залева прыціхла, здаецца,—
Вунь светлая далеч відна.
Зямляне, пакуль удаецца,
Лавіце вайны гругана!

Сярод цішыні на мяжы тут
Я з сэрцам стаю не глухім.
Як цяжка выпроствацца жыту!
Як лёгка заплакаць над ім!

* * *

Неба залатое,
І трава блішчыць,
І хвалюе тое,
Што павінна быць.

Прыкмячаю, чую
Кожны ўзрух і гук.
Цішыню начную
Раскалоў жаўрук.

На сырым пакосе
Водсвет зор пагас.
У трывожным лёсе
Ёсць і светлы час.

Летнія світанні —
Звонкага ліцця.
Моцная ж уранні
Прага да жыцця.

Скруха ўжо забыта,
Луг — адна краса.
Жа̀хае ў ракітах
Белая каса.

3 Зак. 1411





Я зноў пра бэз, я зноў пра пчолку,
Таму што ў вочы сорам коле,
Таму што нават у вясёлку
Заплёўся ўжо і чорны колер.

Ці бачыў хто, з якой пакутай
Сасоннік дыхае каравы?
Мазутам, жыжкаю, атрутай
Сцякаюць рэчкі і канавы.

Знішчае чалавек прыроду:
Зрабіў труну — майструе века.
Прырода ж, помсцячы за шкоду,
Звядзе са свету чалавека.

Заб'ецца луг пяском сыпучым,
Засохне гай, здрабнее колас,
І перад крахам немінучым
Заплакаць хочацца мне ўголас.

Пакуль ёсць чыстыя паляны,
Пакуль ёсць росныя палеткі,
Няхай цвіце мой бэз духмяны,
Няхай пчала ляціць на кветкі.

## ЧОРНАЯ БУРА

Яна высочвала з ухмылкай,
Дзе б укусіць, ды як мацней:
«Ах, людзі! За свае памылкі
Яшчэ вы ўспомніце мяне!»

Яна, як ведзьма, выглядала,
А тут Палессе аж гуло:
Крыж-накрыж рэзалі каналы
Дрыгву абуджаных балот.
Такога не было спрадвеку!
Але яшчэ не знаў прагрэс:
Занадта выпрамляем рэкі
І без разбору пішчым лес.
Зямля ж без лесу — фронт без тылу,
І дзе слабейшы быў заслон,
Там бура чорная круціла,
Тарфы вытоптвала, як слон.

Яна людзей за неашчаднасць
Балюча б'е па галаве:
Не так у нас, як у нашчадкаў,
Кавалак хлеба з рук ірве.
Палёў спустошаных квадраты.
Бяздумна высечаны лес.
Зямлі наносім самі страты,
Запрогшы, як каня, прагрэс.

А бура чорная з ухмылкай
Віхурыць ля змялелых рэк:
Вучыся на сваіх памылках,
Вучыся, добры чалавек!



## ПРАЖЭКЦЁРЫ

Наша неразважлівасць тупая,
Ну, калі ты скончышся, калі?
Пражэкцёраў войска наступае
І калечыць светлы лік зямлі.

Толькі пільнасць людства ўратавала
Ад такіх вучоных недарэк
Чысціню свяшчэннага Байкала
І ваду паўночных бурных рэк.

Пражэкцёраў і клянуць, і лаюць,
Ім жа: падпісаць і — з плеч далоў.
Вунь і край наддзвінскі затапляюць,
Вунь і Прыпяць шчэмяць між валоў.

Ім дазволь — дык перавернуць горы,
Ім скажы — знясуць мацерыкі.
Нават страшна: лезуць пражэкцёры
З розных дзірак, быццам прусакі.

Мне ж патрэбны хвоі і каліны.
Мне ж патрэбны Прыпяць і Дзвіна.
Развітальным крыкам жураўліным
Адгукнецца і мая віна.

* * *





Бачыцца жахлівая карціна:
Гэта я — слабы, галодны звер,
І ў мяне, прысеўшы за асінай,
Цэліцца зацяты браканьер...

Людзям лось заўсёды шчыра верыў,
Ён ад іх у багну не ўцякаў.
Белы свет зрабіўся раптам шэры —
Посвіст кулі на бягу дагнаў.

Здрыгануўся сіні гай трывожна:
Ружавее ля дарожкі снег.
Бег тут лось не вельмі асцярожна,
А цяпер, кульгаючы, пабег.

Ад людзей, хаваючыся ў нетры,
Напралом імчыць ён па кустах,
І далёка на марозным ветры
Дымам гай заснежаны прапах...

Не пакрыўджу ні звярка, ні птушку,
Бо лася я змоглага сустрэў
І сябе, узятага на мушку,
Уявіў сярод журлівых дрэў.



## ПАДСОЧКА

Стаяць падсочаныя хвоі:
Іх лесахімучастак доіць.

Спаткала іх бяда такая:
Смала па кроплі выцякае.

Ажно да неба валатоўкі —
Высакаўдойныя кароўкі.

А смалагоны да падсочкі
Завозяць новыя ўсё бочкі.

Тут хімучастак не схімічыць:
Ён акуратна бочкі лічыць.

Душу ён кожнай хвоі выме,
Пакуль не выдаіць ёй вымя.

Сівеюць хвоі і хварэюць.
Дачасна хвоі ялавеюць.

Начны туман, як ні спрабуе,
Ім свежых ран не забінтуе.

* * *



Высока сонейка ў зеніце.
Грыміць машынамі шаша.
Гняздо зуйка не раздушыце,
Не растапчыце мураша.

Павінны мы сваім нашчадкам
Усё пакінуць, чым жылі:
І белы луг, і рэчку з кладкай,
І лес, і жытнія палі.

Нам усяго хапае ўдосталь
Карміць распешчаную сыць.
Злачынна і ганебна проста
За кошт чужы сягоння жыць.

І цесна часам у стандартах,
І часта смак вады не той,
Ды забываць, мой друг, не варта:
Свет не канчаецца табой.

Пахаладае, завятрэе,
І сведчыць логіка сама:
Цяпло ўчарашняе не грэе,
Святла ўчарашняга няма.



* * *

Вечнага нічога не бывае:
Скінуў дзень парваную аброць.
І вядзе сцяжынка лугавая
За сялібу ночы насупроць.

Вось бы жыць тут весела і згодна,
Каб ніхто нічым не папракаў,
Зоркай палюбуюся ўзыходнай
І пайду паміж даспелых траў.

Павявае з маладога гаю
Свежы вецер добрых перамен.
Людзям я аддаў бы ўсё, што маю,
І нічога не хачу ўзамен.

Пахне мята, востра пахне рута,
Ясна, зорка першая, гары.
Сцежка то стралой бяжыць, то крута,
Як у прорву, падае з гары.

Мне насустрэчу ў хустках кашміровых
Выбеглі бярозкі на абрыў.
І даўжэй, чым сам, жыць будуць словы,
Калі іх ад сэрца гаварыў.

* * *



У кацялку вада кіпіць рачная:
Згатую чай на вострых пахах лета.
Шумлівы бор мяне з маленства знае,
Мая любоў яго цяплом сагрэта.

Жыву я тут гадоў пад сотню быццам,
І кожная сцяжынка тут знаёма.
Пад зоркамі засну, і мне прысніцца
Гарачая пляцоўка касмадрома.

У спелым жыце загудуць камбайны,
І мускулы напружаць рукі кранаў,
І сонца дыск, чырвоны незвычайна,
Над соснамі павісне раным-рана.

Ля абеліска, за зялёным борам,
Перад табой схілюся, край любімы,
Бо не забыць тваю бяду і гора,
Бо не забыць журбу і боль Радзімы.

У бляск адзін між соснамі зліліся
Агню і зорак водсветы начныя.
Шумлівы бор лунае ў сініх высях...
Трывожна мне...
Чагосьці сэрца ные...





Здаецца, гэта ўжо было са мною:
Я жыў, пакутаваў, кахаў
І так, як сёння, золкай раніцою
Стаяў адзін сярод зялёных траў.

Плылі стагоддзі ў клёкаце буслiным,
Ляпілі гнёзды ластаўкі ў гумне.
І гэтак жа свяціліся каліны,
І гэтак жа было трывожна мне.

Тут воінаў часінаю суровай
Вадзіў на бітвы справядлівы гнеў.
І хіжы воран з поля Кулікова
На поле на Буйніцкае ляцеў.

Звідна стаю пад самалётным гулам,
І падаюць журынкі ў мураву.
Душой расхваляванай у мінулым,
Відаць, невыпадкова я жыву.

Зноў воран той вісіць над галавою,
Зноў лета незвычайна расцвіло.
І ўсё, што сёння дзеецца са мною,
Ужо з маімі продкамі было.



* * *

Летняга вечара водсвет чырвоны
Гасне ў вачах і тваіх, і маіх.
Непарушальныя ночы законы:
Бор знерухомеў і жаўранак сціх.

Ран аж залішне ў зямлі незагойных.
Што ж там яшчэ — за туманам густым:
Бомбы ў мартэнах ці зорныя войны?
Жыта на полі ці попел і дым?

Веку дваццатага выпіта чаша,
Кропелька горкая толькі на дне.
Дрэва надзеі і доблесці нашай
Гром не шматкуе і бура не гне.

Спяць у транзістарах джазы і твісты.
Край мой чаборам і мятай прапах.
Веру, што вечара водбліск агністы
Не назаўсёды пагасне ў вачах.

Над лугавінай, над рэчкай, над стромай
Звон планетарнай трывогі гудзе.
Бор за пагоркам стаіць нерухома,
Жаўранак дрэмле на цёплым гняздзе.





У нізіне, на палях квітучых
Прымірыцца я з жыццём не мог
І таму даўно стаю на кручы
Сумных дум, гаркоты і трывог.

Хто ад шчасця быў на небе сёмым?
Хто не помніць спаленых сяліб?
Каб не страх перад ракетным громам,
Людзі, мусіць, весялей жылі б.

Стогнуць сосны і шумяць яліны —
Паспрабуй пад гул вятроў засні.
У жыцці, як у мяшку асіным,
Столькі непатрэбнай мітусні.

Мне хлусілі, ды і я, здаецца,
Віў няпраўды нітку незнарок.
Закрычу — хай на хлусоў пральецца
Слоў ганебных ліўневы паток.

Спее жыта між рачулак сініх.
На жніво гукаю талаку.
І адсюль, з няходжанай вяршыні,
Зноў жыццю працягваю руку.

* * *





Вяртаюцца і год, і дзень пражыты
Вясёлым промнем, хмарай дажджавой.
Плывуць камбайны з гулам цераз жыта,
І доўг людскі расце перад зямлёй.

Плывуць камбайны з гулам цераз жыта,
Пад ногі мне кладзецца цень прамы.
За далячынню, марывам спавітай,
Звініць жалеза, бухаюць грамы.

За далячынню, марывам спавітай,
Жывуць такія ж людзі, як і тут.
Натужліва рыпіць зямлі арбіта
Пад грузам слёз іх, болю і пакут.

Натужліва рыпіць зямлі арбіта,
І на іржышчы мой даўжэе цень.
Каб мірна жыць, з душой, для ўсіх адкрытай,
Малюся я і ўвечары, і ўдзень.

Каб мірна жыць, з душой, для ўсіх адкрытай,
Над жоўтай нівай гул стаіць кругом.
Вяртаюцца і год, і дзень пражыты
То светлай згадкай, то кашмарным сном.





Ля вербаў пахілых, між бору і гаю,
Дзе глуха шумяць асакою брады,
Каго я гукаю, чаго я шукаю
На сцежках святых, дзе хадзіў малады?

Гады пралятаюць, і цяжка за імі
Угнацца праз буры, праз дождж і смугу.
З даўгамі старымі, з грахамі сваімі
Чамусьці сквітацца ніяк не магу.

Нічога, што хлеба падчас не хапала:
І сена касіў я, і дровы калоў.
Было на дарозе маёй іх нямала —
І добрых людзей, і харошых сяброў.

Гляджу на багатую жніўня палітру
З пытаннем адным: а што будзе далей?
На вейках слязу нечаканую вытру,
Каб сонцу ўсміхнуцца крыху весялей.

Гукаў — ды між вербаў не ўбачыў нікога.
Шукаў — ды слядоў між бяроз не знайшоў.
І толькі заплакала каня-нябога
Праз шум асакі з абмялелых брадоў.

* * *




Яшчэ адно лета спакойна і ціха
Сплывае, знікае за сіняй смугой.
Хапіла і шчасця, хапіла і ліха
Усім, хто з трывогай жыў побач са мной.

О, як мы зямлю бераглі, шанавалі
І як жа любілі адзін аднаго,
Бо шчасце — каб жытам каціліся хвалі,
Каб сонца свяціла і — толькі ўсяго.

Рабілі мы справу — адкрыта, не ўпотай.
Пасеялі — зжалі, змалолі — спяклі.
Было гэта добра, і раптам — гаркота:
Над лесам журліва крычаць жураўлі.

Сягоння адчай, маладушша нам шкодны.
Глядзіце: мільгнуў рыжым воблачкам ліс.
Над светлай, таемнай усмешкай Джаконды
Груган вадароднага жаху павіс.

Згасаюць апошнія ў поўнач зарніцы.
І ціша, і ціша такая кругом!
У травах, ля вербаў расхрыстана-ніцых,
Да новага лета напасвіўся гром.



# КВЕТКІ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Цвіці, мая калючая шыпшына!
Пара святла і радасці прыйшла.
І матылёк зноў кружыць над лагчынай,
І зноў на кветкі падае пчала.

Цвіце барвенак — белы і ружовы.
Крынічнік сіні шыецца ў траву.
Шумяць бары, пяюць мае дубровы,
І пах дзівосны кружыць галаву.

Святкуе залацістая пярэсна.
Панікніца паніклая стаіць.
Не ведаю: чаму і ёй балесна?
Не ведаю: чаго і ёй шчыміць?

На гэты луг бягу я раннем волкім,
У гэты гай спяшаю па расе.
Тут незабудкі, медуніцы, смолкі
І новы дзень трывогу ўжо нясе.

Званочкаў не тапчы на дзікіх сцежках!
Маю шыпшыну не ламай, не рві!
І санцацвет аранжавай усмешкай
Азорыць час пяшчоты і любві.



* * *

За зялёнаю вярстой,
Між узлескамі і нівай,
Як сустрэцца мне з табой —
Бесклапотнай і смяшлівай?

Ходзіш дзесьці ты ў вясне.
Блізка дзесьці я гуляю.
Калі цяжка, горка мне,
Я каханне выдумляю.

Рэдка ж так бываюць дні
Без адчаю і згрызоты —
Сэрца прагне чысціні,
Сэрцу хочацца пяшчоты.

Ведаю: шапчу дарма
У цішы прызнання словы.
Не было цябе, няма
І не будзе ў тлум вясновы.

Дзе блукала маладосць,
Там слядоў былых — нізвання.
Добра, што яшчэ ты ёсць,
Прага вечнага кахання.

4 Зак. 1411





Не помню, ці доўга грымела,
Ды ведаю: лівень прыціх,
Пакуль пад чаромхаю белай
Стаялі з табой удваіх.

Паблізу сучок гулка хруснуў —
Прабегла казуля ці лось.
Пяшчота падатлівых вуснаў
Мяне апаліла наскрозь.

Было на дваіх, мусіць, мала
Уцехі, прастору, вясны.
Світанне нас, помню, застала
На росных сцяжынках ля Цны.

І медзь выплаўлялі нябёсы,
І птахі свісталі ў кустах.
Здавалася, край стогалосы
Навекі чаромхай прапах.

Знаёмыя, родныя далі
Згадаў я з журбой праз гады:
Каб гэтак мы сёння кахалі,
Як моцна кахалі тады!

* * *

Суніцы даспявалі
У лета на зыры.
І асвятлялі далі
Вячэрнія кастры.

Згадаю — і на сэрцы
Аж надта гаркаты.
Паўнюткае вядзерца
Суніц набрала ты.

Шаптала: «Мілы! Любы!»
І чуўся звон крыніц,
І пунсавелі губы
Ад спеласці суніц.

Цябе я за гарою,
За дымам, за смугой
Запомніў маладою —
Не ведаю другой.

Была — пайшла, прапала.
Патушаны кастры.
Суніц у лесе мала,
Напэўна, з той пары.





Не прыйшла ў цішы знямелай,
Не сустрэла між лясін.
Адбалела, адшчымела —
Толькі горычны ўспамін.

Дзіўны водар ветравеі
Падымаюць з мурагу,
Ды нішто ўжо не развее
Векавечную тугу.

Я і лёс не дакараю,
Я і крыўды не таю.
На сцяжынцы бачу з гаю
Хустку жоўтую тваю.

З буралому, з навальніцы
Ты ў чужы пабегла свет,
І далёкія зарніцы
Адгарэлі неўпрыкмет.

Ні ў тумане, што радзее,
Ні ў траве след не знайсці,
Ды апошняя надзея
Б'ецца каняй у трысці.



* * *

Да цябе я ішоў у расстанні,
Як да светлай крыніцы ішоў.
Бачыць вочы твае на світанні,
Як да светлай крыніцы, ішоў.

Чысціні і даверу нясмела
У дажджу і вятроў я прасіў.
Каб крыніца не абмялела,
У дажджу і вятроў я прасіў.

І пакуль будуць ззяць нам зарніцы,
Чысціню зберагчы я хацеў.
Не забыла вярба ля крыніцы:
Чысціню зберагчы я хацеў.

Дзень стаіць у маўклівай зняверцы,
І не менее ў ім гаркаты.
Перасмягла збалелае сэрца,
І не менее ў ім гаркаты.

Дзень запоўнены сталай развагай
Каля чыстай, крыштальнай вады.
І мацней адчуваецца смага
Каля чыстай, крыштальнай вады.



* * *

З-пад калін і бяроз белакорых
У вясну ты прыбегла маю,
І з тых дзён мне ўсміхаюцца зоры,
І цвярдзей на вятрах я стаю.

Адзвінела вясна, адшугала —
Паспрабуй хоць на міг дагані!
Без цябе мне заўжды было мала
Цеплыні, дабраты, чысціні.

Ад усмешкі, чароўнай і мілай,
На зямлі засвятлелася ўсёй.
Ты лячыла мяне і судзіла
Непадробнай пяшчотай сваёй.

Ты мне згінуць, у нетрах прапасці,
Калі цяжка было, не дала.
Разумею: якое няшчасце
Нават жаўранку жыць без крыла!

Ён звініць у блакітным прасторы,
Серабром асыпаючы ціш.
З-пад калін, з-пад бяроз белакорых
Да мяне ты бяжыш і бяжыш.

* * *



У лясах, паўз лужкі і балоты,
Ля брадоў і палян верасных
Безпазоўны ёсць востраў пяшчоты —
Цэлы востраў святла на дваіх.

Адгукнецца далёкае рэха
З-за вясёлых кляноў і ялін.
Я не помню: ішоў або ехаў?
І не знаю: з табой ці адзін?

Тут пра ўсё забываецца штосьці —
Пра слату і дажджы над зямлёй.
Гэта — востраў тваёй прыгажосці.
Гэта — востраў трывогі маёй.

Дзякуй цёпламу, ў квецені, маю,
Дзякуй мудрай, старэнькай вярбе.
Я пяшчотна цябе абдымаю
І пяшчотна цалую цябе.

Дабрату адчуваючы востра,
Тут не стаць мне чужым і ліхім.
Ты прыйшла, ты адкрыла наш
востраў —
Назаві яго імем сваім.



* * *

Сёння ўжо не прыкра і не горка:
Адбалела, згінула, прайшло,
І тваёй хусцінкі з-за пагорка
Не мільгне імклівае крыло.

Часам толькі смутак наплывае
І туды, у маладосць, заве,
Дзе нябёсам далеч палявая
Перапёлкай жаліцца ў траве.

Помніцца, не быў я вінаваты,
Што сцяжынкі нашы за сялом
Праз палёў зялёныя квадраты
Пад прамым разбегліся вуглом.

Пралятаў якраз буслінь вырай
І шумела дружная вясна —
Штосьці мне гукнула ты няшчыра
І пайшла за небасхіл адна.

Ведай жа, я і цяпер нярэдка
Засумую між даспелых траў —
Сам суддзя і сам адзіны сведка,
Што цябе я ўсё-такі кахаў.



* * *

Пра далёкае спатканне
Лепш ужо не гавары:
Не паўторыцца світанне
З навальніцай у бары.

За імглістай павалокай
Тая далеч ледзь відна,
Дзе не сварыцца сарока
І яшчэ маўчыць жаўна.

Бегла шчасце веснавое
Пад успененым дажджом.
На траву з высокай хвоі
Атрасаў іглiцу гром.

Дзень, заняўшыся паволі,
Чуў кароткі твой уздых:
Гэты бор ужо ніколі
Нас не ўбачыць маладых.

Аціхала навальніца,
Гром каціўся за брады,
І прысыпала іглiцай
Нашы мокрыя сляды.





Цвітуць і астры, і вяргіні —
Аж яркі водсвет на траве.
Над соснамі ў нябёсах сініх
Ні аблачынкі не плыве.

За сінявой, за смуглым борам
Прасцяг жаўцее палявы.
Ты ж не бядуй, што восень скора
Зажурыць лес і паплавы.

Высокі дзень яшчэ не слотны —
Ляцяць буслы ўдалечыні.
Яшчэ ў тваіх вачах пяшчотных
Хапае летняй цеплыні.

Вятры з маланкамі і громам
Паклалі долу шмат лясін,
І нам у лёсе невядомым
Ісці праз вогнішчы калін.

Знікае лета неўзаметку
І адклікаецца здалёк.
Апошні раз прысеў на кветку,
Як восень, рыжы матылёк.

Ты ж не бядуй, што сум не гіне,
Што моўкнуць звонкія лясы.
Я прынясу табе вяргіні
З туману, з холаду, з расы.




## ВЯСЕЛЛЕ

Заўтра ехаць па сена, па дровы —
Не чакаць, каб вятры загулі.
У сузор'ях шароў каляровых
Праплылі міма хат «Жыгулі».

Зачынацца жыццю маладому —
Хай пасвеціць даўжэй і ярчэй.
Вёска, поўная песень і грому,
Выцірае слязінкі з вачэй.

За нявесту, бярозка, не жалься
І ў самоце касу не дзяры.
У вясельным закружацца вальсе
Каляровыя ў небе шары.

Нагінацца над плугам, над горнам —
У жыцці найвышэйшы давер.
Вёска з хлебам, з насеннем адборным:
Можна песню завесці цяпер.

Ах, шары! Ці не вы вінаваты,
Што аркестр узмакрэў духавы?..
Хопіць дроў, каб не выстылі хаты.
Хопіць сена да першай травы.





Адшумела лета, адгрымела,
І ляціць на верасы пчала.
Нечакана і незразумела
Цішыня сярод лясоў лягла.

Нізка — абяцаннем снежнай буры —
Воблакі сівыя паплылі.
Ты чаго, мой бор, як ноч, пахмуры?
Усміхніся ж небу і зямлі!

Хоць было і крыўдна, і балюча,
Не глядзеў я зверам на людзей.
Успаміны аб вятрах над кручай
Мне трывожаць сэрца ўсё радзей.

У траве густой, пад хвояй стромкай
Згублены ад радасці ключы.
Для сябе, для свету, для патомкаў
Зберажы, што можна зберагчы.

Хутка вам, лясы, палі і хаты,
Лета пісьмы белыя прышле.
Пад прыцэлам у ракет крылатых
Самы горкі мёд збіраць пчале.

* * *





Барвовыя хустачкі верасень вытча,
Ускіне на плечы бяроз і асін.
Пра дзеда і яблыньку ўспомніцца прытча,
І мудрасць адчую я ў ёй не адзін.

Напісана, пэўна, вякоў эпапея
Рыдлёўкай і плугам, сярпом і касой.
Дзед ведаў, што яблык спажыць не паспее,
А дрэўцы садзіў і быў горды сабой.

Як вішні цвілі! Як бялелі чарэшні!
У садзе асеннім спынюся ў журбе:
Унукі дары пазбіраюць, канешне,
Ды толькі ці ўспомняць, дзядуля, цябе?

Успомняць! Таму што не гола, не пуста
На гонях, дзе жыў ён, дзе ў працы гарэў.
Глядзяць на мяне з-пад узорыстых хустак
Пяшчотныя вочы даверлівых дрэў.

Мне помніць пра буры, якія мінулі,
Мне думаць пра след свой, пакуль малады.
Што ж, верасню дзякуй і дзякуй дзядулю
За мудрасць, за спелыя ў садзе плады.





І маіх на зямлі шмат агрэхаў —
За лясамі, за сіняй смугой.
Час мільгнуў — быццам хуценька з'ехаў
У даліну я з горкі крутой.

Тут усё дарагое дазвання:
Спеў дразда, чайкі крык сярод ніў.
І сягоння няма апраўдання
Справам тым, што не гэтак рабіў.

Дні юнацтва, якія не вернеш,
Прыгадаю калі-нікалі.
Не ўзрасце і адборнае зерне
На пустой, заняпалай зямлі.

Адкукуе зязюляю шэрай
Гай, ад самага жніўня руды.
Папрашу ля старога асвера
Кубак ломкай крыштальнай вады.

Без людзей не пражыў бы ні дня я
І забыў бы даўно гаркату:
Вельмі ж рунь на святле адцяняе
І агрэхаў, і душ чарнату.




* * *

Уцякаюць лясы ад мяне —
І бярозкай, і вольхай, і клёнам,
Ды знянацку вясна шугане
З цемры полымем светла-зялёным.

І на тым, дзе стаю, рубяжы,
Паміж заўтрашнім днём і мінулым,
Мне чутны — слова ўслых не скажы —
Незнаёмыя шумы і гулы.

То, відаць, па траве, па вадзе
З далячынь, што ўявіць немагчыма,
Мой патомак насустрач ідзе
І наскрозь працінае вачыма.

Разумею ягоны дакор
І стаю вінавата ў паклоне:
Не ісці і не ехаць праз бор
У здзічэлай чарнобыльскай зоне.

Што патомку сказаць у вясне,
Чым суцешыць у восені слотнай,
Калі нават ужо ад мяне
Уцякаюць лясы незваротна?





Натапырваў шэры заяц вуха —
Гул незразумелы чуў кругом.
Колькі дзён паліла, і вось глуха
Над лясамі пракаціўся гром.

Зачынялі шчыльна аканіцы,
І ніхто не выбягаў на двор,
І не рад быў летняй навальніцы
За сялібай адзічэлы бор.

Заяц трухаў пад лясныя шаты,
І няўцям, гаротнаму, было:
Не падстрэлены і не паматы,
Дык чаму ж агнём нутро пякло?

Цэзіем праліўся дождж вясновы
На лясы, палеткі і сады.
— Выстаім! — ускліквулі дубровы
І прыкрылі лісцем жалуды.

Можа, акрыяў ты, заяц пудкі,
То страхоцця горшага не жджы.
Недарэмна ж сёння ходзяць чуткі
Пра жывыя, чыстыя дажджы.

* * *



Сваю палоску чыста выжні,
Спаўна раздай усе даўгі.
Сасна кладзе ў смалістым стрыжні
Гадоў няласкавых кругі.

За кругам круг, і ў новых далях
Дваццаты век свой значыць след,
Зямлю гайдаючы на хвалях
Людскіх трывог, народных бед.

Палетак свой нанова ўзорвай,
Адборным зернем засявай.
Сасна, павіснуўшы над прорвай,
Глядзіць за сіні небакрай.

Пакуль там ціха і спакойна,
Там сонца бляск, і дай жа, лёс,
Каб шар зямны без лютых войнаў
Дваццаты век нашчадкам нёс.

Не спляжаць танкі рунь густую,
Не зваляць бураны сасну.
Доўг аддаю — жыццё ратую,
Пусціўшы плуг у баразну.



* * *

Зялёны гай, і цень вярбы самотнай,
І сцежкі пыл, дзе я ў слязах ішоў,—
Усё, чым жыў, знікае незваротна
За белакрылай чарадой гадоў.

Сярод лясоў, сярод нязжатай нівы
Сваю гаркоту я забыць не змог.
Не проста жыць вясёлым і шчаслівым,
Калі зямля выслізгвае з-пад ног.

Смыляць яшчэ, пякуць былыя раны,
Пад'ём і спуск уперадзе круты.
На небе, самалётамі ўзараным,
Здаецца, белыя палошчуцца бінты.

І моцны дух, і дабрыня людская
Мяне ўзнялі над шэраю жудой,
І не шкада, што нешта там знікае
Услед за белакрылай чарадой.

Зялёны гай, які шуміць балесней,
І цень вярбы, што помніцца радзей,—
Знікае ўсё, каб выплеснуцца песняй
З натруджаных трывогаю грудзей.

* * *



Кідай вясковыя прывычкі —
Яны даўно тут не ў цане.
Натоўп імклівы з электрычкі
Усмешку моўчкі абміне.

Грыміць трамвай, звініць тралейбус,
Ляціць блакітнае таксі.
Ідзе пузан, спяшае бэйбус —
У іх нічога не прасі.

Якой ні хочацца спагады,
Няма яе ў вачах чужых.
Я нават слову быў бы рады,
Што цеплынёй аблашчыць слых.

Грамадзянін, а не таварыш:
Прыйшоў, купіў і — будзь здароў.
Ты, раўнадушнасць, уладарыш
Сярод панурлівых муроў.

Замучаны і знерваваны,
З ракой і я плыву людской,
І беласнежныя фантаны
Душы навейваюць спакой.






Кожны мур, які народ агораў,
Дыхае пяшчотай з даўніны.
Па начах разбураных сабораў
Бомкаюць над Свіслаччу званы.

Верхні горад пасярод сталіцы,
Сёння безаблічны і нямы,
Дзе твае сівыя камяніцы?
Дзе твае гатычныя дамы?

Злою воляй помнікі ўзарваны,
Попелам развеяны між дрэў.
Тут жа нехта залячыў бы раны
І душою б нехта падабрэў.

Разумею: тыя пустамелі,
Што святыя нішчылі муры,
Будаваць, напэўна б, не сумелі
Нават і жывёльныя двары.

Тут, каля Траецкага прадмесця,
Не прайсці без жалю і тугі:
Трэба чыста, хораша падмесці
Кожны кут, што сэрцу дарагі.




* * *

У горадзе — восаў рахманых нашэсце:
На рынках, у крамах, у кожным двары.
Праходзяць і спёка, і стома, нарэшце,
І восень свае прысылае дары.

І дзіўна, і сумна: гандлярка старая
Ганяе ад яблык даспелых асу.
Упаў жоўты ліст на падножку трамвая —
Вазьму падыму і дамоў занясу.

Не бачыў у горадзе гнёздаў асіных,
Адкуль жа тут восы — ля белых муроў?
Ну, вось і прыждаў я асенняй часіны:
Гады, што пражыў, аглядаю наноў.

У восень спяшае трамвай шматгалосы.
Не купіш, як яблык, свой лёс, дый нашто?
Ах, дзіўныя восы, бяскрыўдныя восы!
Мяне б укусіла якая, ці што?

За дзень нахадзіўся і можна прысесці,
Трамвай — нават дзіўна — чамусьці пусты.
У горадзе восаў асенніх нашэсце,
І кружаць, і кружаць у скверы лісты.



## СЛАНЕЧНІК

У летні дзень бесперастанку
За сонцам ён круціўся ўслед:
Згінаўся вечарам і зранку,
А выпрамляўся пад абед.

Прыгожы, горды, лапавухі
І галавою не пусты,
Ён рос, не ведаючы скрухі,
Да першай жнівеньскай слаты.

Пад ветрам і пад ліўнем хлёсткім
Забыў, аднак, пра гонар свой:
Апалі жоўтыя пялёсткі,
Панік сланечнік галавой.

Счарнеў увесь, прапала сіла,
Ды ён у тым не вінават:
Яшчэ ніжэй яго схіліла
Цяжарам выспелых зярнят.

Зямля ў смузе, у сінім дыме,
І, уздыхаючы крадком,
Ён галавы ўжо не падыме —
Сланечнік, стомлены жыццём.




* * *

Між асіннікаў барвовых
Пах і горкі, і густы.
Абжываюць дуплы совы,
Стынуць мокрыя кусты.

На траву, на скібку хлеба,
На пяро птушыных крыл,
Кажуць, не цярушыць з неба
Радыеактыўны пыл.

Па нізках, па грэцкай пожні
У яры туман паўзе.
Бусел, можа, не апошні
На адной стаіць назе.

Пакідаючы галінку,
Жоўты нудзіцца лісток.
Каля броду безупынку
Коні ржуць у шэры змрок.

Распаліла ўсюды вёска
Вечаровыя кастры.
З вейкі, мілая бярозка,
Слёзку белую сатры.

Абжываюць дуплы совы,
Вецер шастае ў кустах.
Між асіннікаў барвовых
І раллі, і дыму пах.



## ПУШЧА

Шкада, аднак, зуброў тых і зубрых,
Што ў блізкім заняволены кардоне,
Што, здратаваўшы верас у загоне,
Ідуць панура між ялін старых.

У час перадвячэрні цішыня
Туманам разліваецца бялёсым.
Каля бацькоў, здаволенае лёсам,
Вясёлае сваволіць зубраня.

Стары важак, зірнуўшы спадылба,
Наперадзе ступае асцярожна.
Адбіліся ў яго вачах трывожна
Любоў і боль, пяшчота і журба.

Пастаўлены ў вальеры напаказ,
Ён, бацюхна пушчанскі, ўсяму свету.
Яму не хутка выбрацца адгэтуль,
Яму цяпер уцехай кожны раз

Кідаць свой гнеў між бору і дуброў,
І ельнік тут, у загарадзі, трушчыць,
І доўга чуць удалечы над пушчай
Свой першародны, першабытны роў,

* * *




На баль бярозак жаўтакосых
З туману,
з далечы прыйду.
Барвовы верасень на плёсах
Гусей збірае ў чараду.

Пакуль і сонейка ў блакіце,
Пакуль карась не лезе ў глей,
Ляціце,
мілыя,
ляціце
Ад завірух і бур далей.

Што ж, да сустрэчы,
да сустрэчы!
Іх вырай, куля, не крані.
Каб проста жыць, па-чалавечы,
Як не хапае дабрыні!

Яе не вычашаш з бярвення,
Яе не знойдзеш,
як пятак.
Відаць, таму ў смузе асенняй
Ад суму не ўцячэш ніяк.

Пяшчотны матылёк загіне.
Груган перажыве зіму.
Гарань і астры,
і вяргіні.
Каму іх падарыць, каму?



На небе белыя палосы.
Спяць вадародныя грамы.
І баль бярозак жаўтакосых —
Усё ж не баль сярод чумы.

З адной турботаю прыйшоў я
У неспакойны шум лясны:
Цяплом падзелімся, любоўю
І — дачакаемся вясны.

* * *




Праз гады былая
Слава грэе слаба.
Клён агнём палае,
Жоўты ліст у граба.

Быў і я вясёлы.
Быў і я шчаслівы.
Смутак лёг на долы.
Одум лёг
на нівы.

Маладосць адстала
Там,
за паваротам.
Мудрасць цешыць мала,
Што прыходзіць потым.

Продкавы магілы
Там,
ускрай аселіц.
Ля крыжоў пахілых
Думы пасталелі.

З тых часін бядовых
Продак не ўваскрэсне.
Застаюцца словы,
Застаюцца песні.

Буду зноў вясёлы,
Буду зноў шчаслівы.
Прасвятлеюць долы,
Усміхнуцца нівы.



Вецер дзьме сцюдзёна.
Сонца грэе слаба.
Ліст чырвоны ў клёна.
Жоўты ліст у граба.





* * *

Можа, госць я зусім выпадковы
У лясах, дзе чабор не цвіце,
Дзе галодна рыкаюць каровы
У халоднай асенняй слаце.

Ці ж было так нявесела дома,
Калі тут я хадзіў малады?
Пазнаю па старых бураломах,
Што і лес перажыў шмат бяды.

І вятры, і дарогі крутыя
Прыгіналі мяне да зямлі.
Вунь бярозы, ды, мабыць, не тыя,
Што аднойчы ў жыццё правялі.

Пабягу сярод сосен пахмурых,
Перайду ператочыну ўброд.
Родны лес, у нягодах і бурах
Жыць табе яшчэ тысячы год!

Ля цябе, мой дарадца талковы,
Не шкадую, што восень прыйшла:
І раней так рыкалі каровы,
І раней так сляпіла імгла.





Гэта чый разгароджаны сад
У сухім бытльнягу запусцення,
Як жывы, дні і ночы падрад
Уздыхае на слоце асенняй?

Гаспадар не мільгнецца ў акне,
Затравела дарожка ля хаты.
Сад з дакорам глядзіць на мяне,
Быццам я ў нечым тут вінаваты.

Праз пустыя лужкі і брады
Я на хутар прыйшоў выпадкова.
Вельмі проста здзічэць сапраўды,
Не пачуўшы за лета ні слова.

Не жывуць тут, напэўна, даўно:
У альтанцы збуцвелыя лаўкі.
Пасяджу, яблык з'ем заадно,
Ды чамусьці ён кіслы і даўкі.

Быў калісьці і я маладзей:
Зашчымела ў душы, зашчымела.
Першародная красой да людзей
Не вяртаецца сад адзічэлы.

* * *



Як вароны вусцішна крычалі:
Счулі, мабыць, золь і халады.
Журацца задымленыя далі,
І ў тумане выстылі брады.

Простае надзіва прызначэнне
Чарады, што кружыць у двары.
Невядома — боль ці аблягчэнне
Прынясуць паўночныя вятры?

За жыццё з варонамі над хатай
Буду я заўсёды вінават —
І таму, што страчана багата,
І таму, што зроблена не шмат.

Прычакаўшы строгага прысуду,
Ідучы ў дуброву цераз гаць,
Буду думаць, хвалявацца буду,
А вароны хай сабе крычаць.

Вунь адтуль, з ляснога заазер'я,
Наляцяць вятры і халады,
Ды пакуль не снег, а чарнапер'е
Падае на белыя брады.





Пайсці за ліўнямі, за спёкай
З цішы лясной
І там, у восені глыбокай,
Сцякаць журбой.

Шукаць у шуме дрэў міжволі
І змест, і сэнс.
Сваё пазнаў я біяполе,
Як экстрасенс.

Дождж апусціўся нетаропкі,
І — лес прыціх.
Пякуць нязносна болю кропкі,
А колькі ж іх!

Шукаць адказу на пытанні
Між голых дрэў.
Як думаць жудасна, што ўранні
Мой дом згарэў.

Пайсці за ветрам ачмурэлым
У лес пусты
І здаравець душой і целам
Сярод слаты.

* * *





Густа падымецца рунь маладая:
Добра стараліся поле ўзараць.
Лісце з пажоўклых бяроз ападае,
Дымна кастры ў лугавіне гараць.

Дзе вы, крыклівыя чайкі і пліскі?
Луг анямелы і бераг пусты.
Там, дзе на горках стаяць абеліскі,
Свецяцца зоркі з асенняй слаты.

Голы асіннік, бярэзнік раздзеты —
Шумна ў лясах пагулялі вятры!
Не адпускае праз вёсны і леты
Боль, што, як магма, кіпіць унутры.

Кружаць сняжынкі ў паветры настылым.
Хутка мяцеліц зайграе сурма.
Ля адзінокай салдацкай магілы
Ціха і пуста — нікога няма.

Сэрца шчыміць, што ў слату і завеі
Зоркі зямныя не ўсюды відаць...
Пройдзе зіма — цеплынёю павее,
Рунь падрасце, зацвіце сенажаць.

5 Зак. 1411





Прыгожа на зямлі маёй святлее,
І дрэва праўды велічна цвіце,
І зіхацяць бялюткія лілеі,
Якіх было не бачна ў цемнаце.

Хвасты падцялі дружна бюракраты:
Ім наша абнаўленне не пад густ.
Ды зноў сабе жалезныя цытаты
Куе пад шум нядрэмны златавуст.

У цень смаўжы хаваюцца ад сонца
І з ракавін выглядваюць сваіх —
Жыццё ж было малінаю бясконцай
Для чалавечкаў помслівых і злых.

Вакол галоваў іх пратуберанцы
Не свецяцца ў світальны гэты час.
Растратчыкі, рвачы, прыстасаванцы,
Якая ж немач напладзіла вас!

Звініць уся зямля ў птушыных спевах,
І далягляды новыя відны,
І праўды нашай — пралетарскай! — дрэва
Ніякія не зломяць бураны.

* * *



На маім гадзінніку жыццёвым
Стрэлкі пачалі паўкруг другі.
Я жыву! — і перад гэтым словам
Трэба думаць пра свае даўгі.

Вінаваты я сялянскім хатам,
Што ў дарогу хлеба мне далі,
Вінаваты бронзавым салдатам,
Што стаяць на горычнай зямлі.

І калі бываю нелюдзімы,
Значыць, скруха даўняя гняце,
І бяроза ў вобліку Радзімы
Стыне на кастрычніцкай слаце.

Мне б знайсці салдацкую магілу,
Расказаць байцу, як старшыня,
І пячатку маючы, і сілу,
Удаве яго не даў каня.

У садку, за пачарнелай хатай,
Вырасла густая лебяда,
І шкада мне мёртвага салдата,
Як ніколі не было шкада.

Смутак мой бярозавай лістотай
Падае на мокрую жарству.
Стрэлкі адганю назад употай,
Ды і зноўку даўжніком жыву.





Прайшло, мінулася, забыта
У ліставей, у снегапад.
Буран, што трос лясы сярдзіта,
Бадай, не вернецца назад.

Ніщто, як успамін пякучы,
Душу не вымые чысцей.
Каго вятры садзьмулі з кручы —
Даўно няма ўжо і касцей.

Мае гады праз гул завеі
Ляцяць у быстрай чарадзе.
Пакуль карэнне не збуцвее,
Датуль і дрэва не ўпадзе.

Мінута выдасца ліхая,
Калі іду я сам не свой.
Хоць у лясах буран сціхае,
Надзеі мала на спакой.

Прайшло каля дубровы мілай.
Мінулася, як майскі град.
Забыта ўсё, што лёс круціла,
Што больш не вернецца назад.




* * *

Над пахучым ясенем, над клёнам
Моцна свішча вецер у дуду.
Я ў пярэсты гай, што быў зялёным,
Сёння — растрывожаны — пайду.

Прыпынюся ля асіны дрогкай,
Можа, зразумею тут, чаму
З летам развітацца мне нялёгка,
Ды яшчэ цяжэй сустрэць зіму?

Рунь даўно прабілася з насення,
Смутак мой зусім не паказны
На сумежжы чарнаты асенняй
І зімовай звонкай белізны.

Першы лёд на лужынах патрэскаў.
Адзінокі лісцік на вадзе.
Не чуваць дуды між пералескаў —
У трубу вятрыска ўжо гудзе.

Значыць, так: калі палетак жытам
Сам засеяў, дык лягчэй тады
Развітацца з летам незабытым
І чакаць спакойней халады.





Мінут высокім частаколам
Жыццё абнесена, як сад.
У дні згрызот не стаць вясёлым
І не вярнуцца мне назад.

Іду паўз яблыні і вішні,
Гады губляючы свае.
Не вельмі цешыў свет калішні,
І сёння холаду стае.

Між дрэў, у непагадзь азяблых,
Вядзе сцяжынка пад абрыў.
Мінуту кожную, як яблык,
Гаркоты вусень патачыў.

Відаць, звышнавіны не выдам:
Гарэлым свет увесь прапах.
Я кланяюся інвалідам,
Жанчынам з дзецьмі на руках.

Мільгаюць быстрыя мінуты.
Глядзяць ракеты ў сіняву.
Душой да бед людскіх прыкуты,
Працую, думаю, жыву.

* * *




Не хутка і сонца загляне
У бор, дзе стаю пры сасне,
І белыя здані ў тумане
Маўкліва ідуць паўз мяне.

Ніякі вяшчун і не містык,
Чакаю, гадаю і — вось
Здалёк, сярод шатаў цяністых,
Гукае разбуджаны лось.

І следам у мроі світальнай
Заранка шчымліва пяе,
І бачацца ясна, рэальна
Трывогі і беды мае.

Прадвеснікі вечнай разлукі
Брыдуць за імглою густой —
У неба працягнуты рукі,
Напоўнены вочы жудой.

І ціша, і свежасць якая
З блакітнага льецца каўша,
І ў белым тумане блукае
Чыясьці жывая душа.



* * *

У святле завірухі барвовай
Гай стаіць, як зязюля, рабы,
І не знаю такога я слова,
Каб замовіць зямлю ад журбы.

Налятаюць са свістам і гулам
З апусцелых аселіц вятры.
Мне шкада, што юнацтва мільгнула,
Як іскрыстая знічка ўгары.

Быў і я тут вясёлы заўсёды —
У асін і бяроз на віду.
Уздыхну і далей праз нягоды
У барвовую замець пайду.

Што за гаем — удача ці ліха?
Вечар лёг на дарогу, на гаць.
Доўга будзе, згасаючы ціха,
Знічкі след у нябёсах блішчаць.

Белы свет аглядаючы зорка,
Трэба жыць весялей, ласкавей
І, губу закусіўшы, з пагорка
Слухаць шум ужо зімніх завей.



* * *

У нізках, дзе звон вісеў пчаліны,
Намаразь лягла на жоўты ліст.
Распалілі вогнішчы рабіны,
Счуўшы блізкай непагадзі свіст.

Шэры і дажджлівы час асенні
За слату я іменна люблю,
Бо за ёй прыходзіць прасвятленне
На душу маю і на зямлю.

Жур бяроз, курлычучы, на поўдзень
Праз імжу панеслі жураўлі.
Гром заціх надоўга, і прыйшоў дзень
З інеем на скронях, на раллі.

Выпаў снег, і я душой святкую
І дзялюся радасцю сваёй,
Буру бласлаўляючы такую,
Што збуцвелы ломіць сухастой.

У лясах, дзе я хадзіў і марыў,
Жоўтым лістам свеціць дуб стары,
І агні рабінавых пажараў
У завею тушаць снегіры.



* * *

Шапкі снегу на ніцыя вербы,
Каб не выстылі, снежань надзеў.
У лясах, сярод поля цяпер бы
Слухаць буйнай завеі напеў!

І не думаць пра беды, пра войны
І пра боль, які мучыць мяне.
Быў на слёзы гарачыя ўдойны
Век дваццаты, што хутка міне.

Можа быць, там, у часе суровым,
Вінаваты мы самі былі,
Што любілі прыгожыя словы,
А людзей палюбіць не змаглі.

Прамільгнулі гады, праляцелі
І ўзірацца ў нябёсы дарма.
Жорсткім венікам шумных мяцеліц
Белы свет замятае зіма.

Снег, спаўзаючы змейкамі з кручы,
Лёг сумётам у кожны вышчэрб.
І пранізвае позірк балючы
З-пад завеяных шапак у верб.

* * *




У нашым садзе птаства адспявала,
І не вярнуцца ў жоўты лістапад.
Захутаны бялюткім пакрывалам,
Ужо даўно на ветры стыне сад.

Стаяць у снезе голых дрэў скульптуры,
Аднак мае сляды не замяло.
І ўсё ярчэй, калі праходзяць буры,
Высокіх зор пяшчотнае святло.

Яно сагрэе ў горкія хвіліны,
Яму я ўдзячны, садам ідучы,
Таму што бачу: гнуткія галіны,
Як быццам рукі, цягнуцца з начы.

І дораг мне, і ўсё мацней люблю я
Той час, калі над сцішаным сялом
Вялікая Мядзведзіца палюе
За белым, як цюлень, маладзіком.

І дарага марознае світанне,
І любы мне глыбокі снегастой,
І дзіўнае прыроды паядnанне
З маім жыццём і існасцю маёй.





Зіма ў лясах развесіла мярэжы
У час шумлівых лютаўскіх завей,
І вось ужо апоўдні вецер свежы
Павеяў весялей і ласкавей.

Іду між дрэў, з мінулых дзён пануры:
Жыццё трасе, але яму я рад.
Лясам і мне зноў абяцае буры
Пяшчотны і маўклівы снегапад.

На галах скрозь так бела і так чыста,
Што пасвятлела нават угары.
Шчыглы з рабін цярушаць снег іскрысты,
І па галінках скачуць снегіры.

Няхай не памірае ўсё жывое
Ад цэзію, ад бомбаў і ад куль.
І мне, і вам, заснежаныя хвоі,
У жоўтым смутку нудзіцца дакуль?

Як у лагчынах дзьмула, як гуло там!
Ды чарната прысыпана не ўся.
Асіннікі частуюць за балотам
Карою горкай змоглага лася.

Іду далей, і вецер замятае
Жарствою снежнай свежыя сляды.
Няхай гудзе зіма, але не тая,
Што пахавае ўсё тут назаўжды.

* * *





Захацелася выйсці на ўлонне
Да маўклівых кляноў у зіме.
Вельмі светла і хараша сёння:
Снег іскрыцца і сівер не дзьме.

Ветразь неба на сонечнай рэі
Нерухома вісіць над зямлёй.
Не бяда, што зіма не сагрэе
Майскі ландыш пяшчоты маёй.

Ёсць цяпло, што ў мароз не знікае,
І яму не працяць да касцей.
Ёсць святло дабрыні той, якая
Узвышае і робіць чысцей.

Вунь кляны і дубкі ўперамежку
У вясёлай бягуць чарадзе.
На якую ні ступіш ты сцежку,
Да сялібы яна прывядзе.

На ільдзіне, у лесе, на кручы
Між людзей жыць хачу ў дабраце,
І ў бядзе, на марозе траскучым
Майскі ландыш пышней расцвіце.





Спатыкнуўся, відаць,
На бацькоўскім парозе,
І спакою —
не знаць,
Я стаміўся ў дарозе.

Рукі бор распасцёр,
У яго заначую.
Вось і свеціць касцёр,
Зоркі ў кронах лічу я.

І хоць сэрца баліць,
І хоць сняцца кашмары,
Вечна хочацца жыць
У зялёным абшары.

Бор стаіць давідна
І пануры,
і шэры.
Дарагая цана
Нашай праўды і веры.

Хто падманам жыве,
Хто насмешкаю зачэпіць.
Крумкачу і саве
Вочы сонца аслепіць.

Светлы прыйдзе ўспамін
Аб любові ўзаемнай.
Мой касцёр між лясін
Зоркам свеціць таемна.

Месяц сеў на сасну.
Заўтра спраў будзе многа.
Я крыху адпачну
Перад новай дарогай.







Халодная зіма:
Снягі, завеі, вецер.
Ці ёсць я, ці няма —
Кіпіць жыццё на свеце.

Сініцы, снегіры,
Здаецца, сцюжам рады.
Паслухай, бор стары:
Хачу тваёй спагады.

Ці мне баліць, ці не —
Табе якая справа.
І ўсё ж ты на мяне
Часцей глядзі ласкава.

Гадоў, як снегіроў,
Маіх мільгнула многа.
І зноўку я здароў
Ад шуму баравога.

І скрухі больш няма,
І радасці — задужа:
Узлёт, прастор, зіма.
І — снегіры, і — сцюжа.





* * *

Праз дымы бразготак і петардаў
Грозная падкралася бяда.
Не шкада мне страчаных мільярдаў —
Моладзі аблуднае шкада.

Вось ідзе, ачмураны ад маку,
Рэжа нецэнзуршчынаю слых.
Дабраты і ласкі ані знаку
У вачах захмелена-пустых.

Супакой, нядбаласць падмывалі
Нашыя асновы кожны дзень.
Вунь ужо і школьнікі ў падвале
Нюхаюць смуродлівую дрэнь.

Папракаю і сям'ю, і школу.
Пра бяду ці ўведалі цяпер?
Быў бы маладзейшы — камсамолу
Выказаў бы, мусіць, недавер.

Да аблудных душ няма пагарды.
Чысты лівень змые каламуць.
Страчаныя вернуцца мільярды —
Страчаныя душы не вярнуць.



* * *

Мілыя, усмешлівыя дзеткі!
Хто чакае літасці ад іх?
Гэта страшна: мінскія падлеткі
Галубоў падпальваюць жывых.

Абальюць бензінам альбо газай,
Паднясуць запалку апасля.
З чорнаю паўзучаю заразай
Родная ці справіцца зямля?

Так, відаць, прыходзіць час адплаты
За хлусню пра веру і любоў.
Гэта страшна: маладыя кàты
Вешаюць сабачак і катоў.

Пакланенне жорсткасці і сіле:
Закурыў і — сябра абакраў.
Мы сваіх дзяцей перакармілі,
Да зямных не прывучылі спраў.

І таму балюча мне і горка,
Што святыя сохнуць карані.
Гэта страшна: дзесьці на задворках
Рвецца ў неба голуб у агні.




* * *

Сярод раўнін, сярод пагоркаў
Я тут, вядома, не чужы.
Падсвечана палыннай зоркай
Жыццё на дымным рубяжы.

Каб жыць разумна і цвяроза,
У лес іду, дзе пазнаю
У гэтых елках і бярозах
Радню душэўную сваю.

Я тут здаўна жыву трывогай:
Не лопнула б сваяцтва ніць.
Людзей між дрэў не так і многа,
Каб хлеб па-брацку не дзяліць.

З пагорка шум лясны паслухай:
Нялёгка жыць, калі адзін.
Я не слабы, я моцны духам
Паміж дубоў, сярод ялін.

У сэрцы боль прыціхне востры,
Які замучвае штодня.
Я вас люблю, браты і сёстры,—
Мая адвечная радня!





Пасля бур, што, здаецца, мінулі,
Пушча ў снезе глыбокім уся.
Цяжкі час для галоднай казулі,
Горкі час для худога ласядя.

Ды і мне па шляхах невядомых
Ці ж не трудна ісці пацяньні,
Калі ўсюды ляжаць бураломы,
Калі ўслед падвываюць ваўкі.

Стрэльба ёсць за плячамі, канешне,
Будзе трэба — і стрэльбу здыму,
Хоць з сябрамі ісці ўсё ж бяспечней
Скрозь бяду, праз мароз, у зіму.

Я ў трывожнай начы не прымроіў
Гэты лес без людзей, без хацін.
Каля белых ялін, каля хвояў
Страшна мне, што я сёння адзін.

Пасля бур свет глухі і гарушчы.
Пасля бур неспакойны я штось.
Закрычу — можа, з воўчае пушчы
Адгукнецца казуля ці лось?

* * *




Напэўна, стаў бы на калені
Перад табой, няўмольны час.
Але яшчэ мае алені
Бягуць світаннем на папас.

Свой новы крок у свет шырокі
З усмешкі хочацца пачаць.
Але дзесь хмурацца аблокі
І скрушна кнігаўкі крычаць.

Пачнуцца ліўні, завятрэе,
І снег апусціцца на скронь.
Але мяне яшчэ сагрэе
Пяшчоты і любві агонь.

Свой новы дзень, свой дзень звычайны
Хачу я з радасці пачаць.
Але чужой бяды і тайны
Ляжыць, ляжыць на ўсім пячаць.

Пытанняў шмат — няма адказу.
Гарыць ружовая зара.
Але, прыціхлы, не адразу
Я рву лісток календара.



## САСНА

Лясіна ўпадзе на прасеку —
Ад жалю пасля не засну.
На золата цэніць спрадвеку
Народ баравую сасну.

І хан, і кароль — хто не марыў
Аб нашай пакутнай зямлі!
Ды зноў пасля грозных пажараў
Смалістыя зрубы раслі.

Праз бор, пасівелы ад часу,
З пілой заваёўнік ішоў,
Сасны ж залатога запасу
Хапіла на многа вякоў.

Край выжыў навалаю лютай,
І грай у лясах не замёр.
За шчасце бясцэннай валютай
Заўсёды расплачваўся бор.

І дзяцел, і сойка, і пліска
Удзячны за гнёзды сасне,—
І дзеці смяюцца ў калысках,
І скрыпкі пяюць у вясне.

* * *

Белымі крыламі сцюжа
Білася ноччу між хат.
Пэўна, бабулі нядужай
Бронзавы сніўся салдат.

Зноў мне ісці праз сумёты
У далячыні гадоў.
Скуль ты з'явіўся і хто ты?
Ці на ахвяру гатоў?

Дрэвы ў накідках пуховых.
Вецер і ранкам не сціх.
Цёплыя ведаю словы,
Гурбы растануць ад іх.

Хату бабулі старую
Снег аж да вокан замёў.
Ведаю, помню, шкадую —
Сон даўно не ішоў.

Смутак, што мучыў учора,
Так і застыў у вачах.
Крыламі б'ецца ў прасторах
Сцюжы падстрэлены птах.





Сэрца, заныла чаго ты?
Бачыш — працую, жыву.
Снег — на лясы, на балоты.
Снег — на пясок, на жарству.

Сэрцу хапае трывогі.
Шэрхнуць рагоз і аер.
Рэкі, азерцы, разлогі
Помняць Чарнобыль цяпер.

Снегам прыкрыты паляны,
І ў верасах чарнатроп.
Коні завей не ўцугляны —
Скачуць удаль наўгалоп.

Боль, што мінуў, адзавецца —
Лёсу ледзь провад крані.
Болей не прыйдуць, здаецца,
Чорныя ночы і дні.

Чуеш, зямля: невыносна
Думаць пра беды твае.
Снег на ялінах, на соснах
І на душы растае.

* * *





Ля чырвонай рабіны зімою
Не сагрэцца пад шолах завей —
У вясну за імглой снегавою
Жураўліная песня заве.

На галінах падмёрзлая чырвань
Да цяпла пратрымаецца аж —
Быццам з рук мастака нехта вырваў
Недапісаны сумны пейзаж.

Вунь ляцяць снегіры — ці здаецца,
Што ляцяць снегіры за смугу?
Я хачу ля рабіны пагрэцца:
Да яе па сумётах бягу.

Хоць суровы наш век, а ўсё роўна
Дзень з рабінай прыгожы наўздзіў.
Паміж воблакаў белых чароўна
Неба сіні падснежнік зацвіў.

Хутка, значыць, у крыках вясновых
Патануць і сады, і дамы,
І заблудзяцца дзесьці ў дубровах
Маладыя, з дажджамі, грамы.



* * *

Дрэвы гнуцца ад ветру ў маркоце,
І сляды замятае ў трысці.
Мне ісці нацянькі па балоце,
Мне ўкруга да сябе не дайсці.

Я, канечне, і сёння не знаю,
Што чакае мяне за імглой.
Шмат было і нуды, і адчаю
У дыханні завеі начной.

Але неба святлее ўсё болей,
І слабей ужо вецер гудзе.
Мне ісці па ярах, цераз поле,
Мне ісці па адліжнай вадзе.

За ярамі, за далеччу сіняй
У бядзе быў і я сам не свой.
Пасля бур непрыкметна, як іней,
На зямлю асядае спакой.

Да вясны будзе снегам прыкрыты
Гэты след у змакрэлым трысці.
Мне б дайсці да зялёнага жыта,
Мне б да праўды жыццёвай дайсці.

# ЗМЕСТ

**Гардзей В.**

Г 20 Узрушэнне: Лірыка.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 142 с.

ISBN 5-340-00381-7.

Гордей В. К. Потрясение: Лирика.

**У новай кніжцы паэта адлюстраваны характэрныя рысы сучаснасці: абвостраная памяць, імкненне да аднаўлення ўсіх бакоў нашага жыцця, трывога за мір, клопаты пра ахову наваколля, боль Чарнобыля. Ёсць тут і вершы пра дружбу і каханне.**

$Г\frac{4702120200-170}{М\ 302(03)-88}48-89$ **ББК 84 Бел 7**

Литературно-художественное издание

*Гордей Виктор Константинович*

**ПОТРЯСЕНИЕ**

*Лирика*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

*Гардзей Віктар Канстанцінавіч*

**УЗРУШЭННЕ**

*Лірыка*

Рэдактар *Хв. Д. Жычка*
Мастак *Ю. Ц. Цярэшчанка*
Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*
Тэхнічныя рэдактары
*А. Б. Барадзіна, Г. П. Тарасевіч*
Карэктар *Т. В. Трубач*
ІБ № 3184

Здадзена ў набор 27.04.88. Падп. да друку 17.10.88. АТ 09705. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,27. Ум. фарб.-адб. 5,42. Ул.-выд. арк. 4.45. Тыраж 2500 экз. Зак. 1411. Цана 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.